Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl
№ 44 (2946) Год LVII
Беласток, 28 кастрычніка 2012 г.
Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Случанка →3



Украіна выбірае →12

**Нямое кіно ў спалучэнні з жывой музыкай гасцявала тры дні ў Падляшскай оперы і філармоніі — Еўрапейскім цэнтры мастацтва. Праводзіўся тут першы фільмавы фестываль „Camera!ta”. Яго часткай былі паказы нямых беларускіх фільмаў „Кастусь Каліноўскі” з акампанементам фартэпіяна, за якім сеў мінскі кампазітар Сяргей Пукст і „У агні народжаная” з акампанементам культавага гурту „Рэлікт”, узніклага ў Светлагорску на беларускім Палессі. Абедзве кінапраекцыі былі паказаны ў рамках праекта „Тузін. Немаўля”.**

■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Немаўля прамовіла ў Оперы



За фартэпіяна ў фае оперы даючы фільму гук, засеў Сяргей Пукст

У час фестывалю можна было пабачыць славуты, таксама па-за межамі Польшчы, мультыплікаваны фільм „Свіцязь” у рэжысуры Каміля Поляка, да якога музыку склала расійская дырыжорка і піяністка Ірына Багдановіч, прысутная на паказе. Яна таксама рэканструявала партытуру музыкі і выкарыстала кантату Сяргея Пракоф’ева да „Аляксандра Неўскага”, пампезнага твора Сяргея Эйзенштэйна. Паказалі таксама першую фільмавую (нямую) версію оперы „Кармен” у рэжысуры Сесіля Дэ Міля з 1915 года, з музыкай да оперы Жоржа Бізэ пад аднайменным загалоўкам. Выканалі яе беластоцкія філармонікі і мецца-сапраністка Падляшскай оперы Іаанна Матулевіч. Былі таксама іншыя музычныя і фільмавыя атракцыёны.

Фестываль пачаў паказ фільма „Манія. Гісторыя работніцы фабрыкі цыгарэт”, з адной з першых роляў зоркі нямога кіно — Полі Негры. Для гэтага лічбава рэканструяванага фільма музыку напісаў Ежы Максымюк, дырыжор і кампазітар родам з Беластока. Пад яго батутай таксама падляшскія філармонікі выканалі твор. Раней фільм з музыкай маэстра адбыў еўрапейскія гастролі. Няпоўную гадзіну перад паказам фільма сустрэлі мы Максымюка перад... касай беластоцкай оперы. На здзіўленне іншых меламанаў у чарзе чакаў ён запрашэнняў на свой кіна-канцэрт. Спыталіся мы ў яго пра цяжкасці з пісаннем музыкі для фільма:

— Перш за ўсё трэба мець да фільма свае адносіны. Гэтую фільмавую тэму, калі жанчына, ахвяруючы сябе ў імя любові да каханага, які ствараe оперны твор, аддае сябе іншаму мужчыну — лічу шэкспіраўскай тэмай. Некаторыя лічаць, што гэта трывіяльнае. Я — што каштоўнае, таму што расказвае пра ахвяраванне твора. Да пісання гэтай музыкі я падышоў вельмі сур’ёзна. Аснавана яна на той напісанай у дваццатыя гады дваццатага стагоддзя. Вельмі люблю гэты перыяд, нават яго колер, які мне з ім асацыюецца. Такі быццам бы аквамарын, зелень. Таму люблю французскія кавярні, шмат мне прыгадвае той час. Я цікавы выканання ў тутэйшай оперы, акустыкі гэтай залы, таму што першы раз у ёй дырыжырую, а ўчора я дырыжыраваў у зале з незвычайнай акустыкай — імя Пятра Чайкоўскага ў Маскве. Я хацеў бы, каб такая была і тут.

Немалое зацікаўленне, незалежна ад позняй пары прэзентацыі (на жаль!), выклікалі ў час фестывалю паказы нямога беларускага кіно. Ілона Карпюк з імпрасарыята ПОіФ расказала нам, як дайшло да прэзентацыі беларускіх фільмаў:

— Праект „Тузін. Немаўля” невыпадкова апынуўся ў рамках фестывалю „Camera!ta”. Супольна з сайтам „Тузін гітоў” рэалізуем гэты праект, які суфінансуе Міністэрства замежных спраў. Дагаварыліся мы з каардынатарам ідэі „Тузін. Немаўля” Сяргеем Будкіным, каб у рамках гэтага праекта рэанімаваць беларускае нямое кіно, несумненна прапагандысцкае. Агулам паказваем тры фільмы з дваццатых гадоў. Дзве прэм’еры ў рамках фестывалю „Camera!ta” , адзін — „Прастытутка” ў рэжысуры Восіпа Фрэліха, якому гук дае беластоцкі гурт „Ilo&Friends”, пакажам у Мінску (будзе гэта першы выступ гурту ў Беларусі — М. Х.). Такія гурты, як „0-85” ці „РІМА” ў Беларусі зайгралі ў апошні час канцэрты на пачатку двухтысячных гадоў. Ад таго часу гэтага тыпу падляшскія гурты ў Беларусі не выступалі.

Перад першым паказаным беларускім фільмам „Кастусь Каліноўскі” з 1928 г. (сцэнарый і рэжысура: Уладзімер Гардзін, здымкі: Навум Аптэкман, славуты з пазнейшых гістарычных роляў Мікалай Сіманаў у ролі Кастуся Каліноўскага), Сяргей Будкін тлумачыў гледачам-слухачам назву праекта „Тузін. Немаўля”:

— „Немаўля”: таму, што першае кіно, нямое, што толькі нарадзілася. „Немаўля” таксама таму, што праект датычыць чагосьці ў Беларусі новага, шырэй невядомага. „Немаўля”, з націскам на канчатак „-ля”, які адносіцца да музыкі.

Сяргей Будкін звярнуў увагу на тое, што беластачане — шчасліўцы, таму што трыццацідзевяціхвілінны „Кастусь Каліноўскі” не быў паказаны на вялікім экране ад 1929 года. За фартэпіяна ў фае оперы (першы раз выкарысталі гэтую прастору ў новым гмаху), даючы фільму гук, засеў Сяргей Пукст, прадстаўнік г.зв. нігілістычнага джазу ў музыцы, унук аднаго з самых славутых кампазітараў на постсавецкай прасторы, аўтара опер (напр. славутай „Свіцязянкі”). У размове з „Нівай” перад паказам сказаў:

— Вядома, у Беларусі ставяцца фільмы і пішацца музыка для іх. Беларускі фільм, аднак, звязаны з дзяржаўным, страшным кінематографам створаным паводле навязаных задач. Вельмі цяжка ў нас выдзеліць фільмавую музыку як нейкі, таксама асобны творчы кампанент. У Беларусі для свежых музычных задум ёсць нейкая прастора практычна выключна ў рамках мультыплікацыйнага кіно.

Расказаў нам пры нагодзе пра фільмава-музычны хепенінг, якога быў адным з задумшчыкаў:

— З маім сябрам мы выдумалі прозвішча кампазітара і стварылі музыку на ўвесь аркестр для беларускага фільма, неіснуючага. Назвалі мы яго „Чорны бусел”. Стварылі мы вакол яго легенду на фейсбуку. Напісалі, што знайшлі плёнку прапаўшага фільма з 1954 года, які забаранілі. Шмат хто палічыў гэта праўдай. Аказалася, што музыка для віртуальных фільмаў маецца ў нас добра.

Яго выкананне музыкі да „Кастуся Каліноўскага” было імправізацыяй, але з намерам:

— Я хацеў, каб музыка ўздзейнічала контрапунктам адносна падзей у фільме, каб не перабольшыць з тою геройшчынай на экране. Цікавей іграць, калі можна дастаць нейкае другое дно. У гэтым фільме з гэтым цяжка.

Пасля паказу не скрываў:

— Удалося мне маю задуму зрэалізаваць у 60 працэнтах. Крыху мяне з’елі нервы.

Уражаннямі папрасілі мы падзяліцца ў аднаго з гледачоў, гісторыка Алега Латышонка:

— Праўда тут толькі такая, што быў Кастусь Каліноўскі і было паўстанне ў 1863 годзе, ну і яшчэ фактычна генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў быў сапраўдная персона. У гэтым фільме, аднак, усё мела месца зусім інакш, чым у рэальнасці. Тут гаворка пра паказанне класавага канфлікту. Галоўнага ворага зрабілі з арыстакратыі, а не з расійскага акупанта.

Можа з-за гурту „Рэлікт” — які штодзень іграе альтэрнатыўны рок ці пост-метал — на закрываючы фестываль саракачатырыхвілінны фільм „Народжаная ў агні” (рэжысура: Уладзімір Корш), да камернай сцэны оперы прыйшлі галоўным чынам маладыя людзі. Капэла з пяці асоб, вядомая падляшскім аматарам „Бардаўскай восені” ці „Басовішча”, і ў гэты раз пахвалілася цікавым гучаннем мацнейшага ўдару. Сам фільм — згодны з савецкай прапагандай, кляймуючы „ворагаў пралетарыяту” (увайшоў коратка на экраны ў сакавіку 1930 года), расказвае аб змаганні за незалежнасць Беларусі ў 1919-1920 гадах, між іншым паказвае постаць генерала Станіслава Булак-Балаховіча ў авангарднай форме з выкарыстаннем метафорыкі ў карціне. Гэта першы і апошні беларускі фільм з тага часу, прымяняючы метафару і ўспамінаючы Беларускую Народную Рэспубліку. Два сябры гурту расказалі нам аб сваіх досведах у працы пры гэтым фільме. Аляксандр Дзямідзенка (ударныя):

— Мы першы раз давалі музычны фон для фільма і ўвогуле, у рамках гэтага праекта, першы раз у свеце беларускія музыкі даюць фон для беларускага фільма. З тэхнічнага пункту гледжання нам няцяжка іграць такую музыку, ды з эмацыянальнага — больш цяжка. Фільм вельмі складаны і драматычны, калі разумець кантэкст, у якім ствараўся, гэтую савецкую агітку. Мусім паказаць тое, што на экране, і свае адносіны да таго, што паказваецца, таму нялёгка падабраць адпаведныя гукі. Прытым яшчэ ведаючы, што аўтара сцэнарыя да фільма (быў ім пісьменнік Анатоль Вольны — М. Х.) праз некалькі год пасля пастаноўкі фільма расстралялі.

Уладзімер Казлоў (вакал):

— Мы не запісваем іграных партый да гэтага фільма. За кожным разам іграем пановаму, спаглядаючы на чарговыя сцэны, нанова выяўляючы новыя эмоцыі.

У час паказаў сустрэлі мы аднаго з нешматлікіх у Беластоку знаўцаў кіно Адама Радзішэўскага. Папрасілі ў яго, каб штосьці сказаў пра беларускае нямое кіно. Адказаў:

— Nie mam zielonego pojęcia.

— А ці ў Польшчы хто-небудзь ведае штосьці пра гэтае кіно?

— Думаю, што ніхто.


9 770546 196000



# Штодзённыя анектдоты

Калі ўсе штодзённыя праявы навакольнай рэчаіснасці прымаць сур'ёзна і блізка да сэрца, то можна адразу пайсці і застрэліцца, альбо накласці на сябе рукі іншым спосабам. Бо калі беспярэпынна нервавацца, то ўсё роўна ніякага жалезнага здароўя не хопіць нават на такое кароткае сярэдняе чалавечае жыццё. Амаль кожны дзень прыносіць такія навіны, што як кажуць — „хоць стой, хоць падай". Пра Нобелеўскую прэмію міру, якую прысудзілі Еўрасаюзу, ужо напісалі мае сябры і калегі. Праз пару дзён увесь кантынент пацешыла сталіца Польшчы — Варшава, якая не здолела накрыць свой суперсучасны стадыён, уведзены ў эксплуатацыю на футбольны еўрачэмпіянат зусім нядаўна, дахам. Нібыта па рэгламенце адказныя чыноўнікі слухаліся прысланага інспектара, які да апошняга чакаў з мора пагоды, ды так і не дачакаўся. Калі гэта сапраўды так, то вось яна сутнасць еўрапейскага бюракратызму — бо мясцовыя службовыя асобы не могуць самастойна прыняць відавочнага рашэння. А інтарэсы людзей, якія моклі некалькі гадзін на дажджы і страцілі марна час і грошы, адсунуты на другі план. Вось у Беларусі — адваротная сітуацыя — тут адміністрацыйна-камандны „маркетынг" дзеіць напоўніцу. З тым жа футболам яскравы прыклад — спярша федэрацыя на матч Беларусі з мацнейшай дружынай свету — Іспаніяй узняла кошты на квіткі ў неадэкватныя высі. Ну, а потым, калі білетаў не раскупілі, распаўсюдзіла значную іх частку задарма па розных дзяржаўных установах, зразумела з абавязаннем наведаць стадыён. Урэшце арэна так і не сабрала чаканага аншлага на відовішчы мацнейшых майстроў планеты.

Ды што там нейкі футбол! Вунь у Беларусі пачала працу першая сесія новаабранага парламента. На пачатку, як вядзецца, абіралі яго галаву. І што вы думаеце — здарылася сапраўдная сенсацыя. На выбарах спікера не здолелі забяспечыць аднагалоснага выніку. Ажно тры бюлетэні падліковай камісіяй прызнаныя несапраўднымі. Няўжо гэта зародак новай апазіцыйнай фракцыі?! Паверыць у такое франдзёрства цяжэй, чым у тое, што мінская Свіслач неўзабаве пацячэ ў зваротны бок. Проста інтэлектуальны ровень гэтых „народных абраннікаў" такі, што і прагаласаваць „правільна", як належыць, не кожны здольны. Але падвучацца і з законатворчасцю напэўна пойдзе ў іх куды лепей. Вось і новы законапраект кіраўнік дзяржавы ім у Палату „ўнёс" — паводле яго неўзабаве на вайсковыя зборы будуць пакліканы ўсе ваеннаабавязаныя, у тым ліку і жанчыны. Беларусь у гэтым сэнсе стане падобна на Ізраіль. Гэтая краіна, як вядома, скрозь аточаная суседзямі, якія наўпрост дэкларуюць знішчыць іудзейскую дзяржаву. Па ўсім відаць, і ў нас сітуацыя даходзіць да крытычнай. Праўда, у Беларусі ад службы „ў партызанах" усё ж будуць вызвалены „дэпутаты", суддзі і пракурорскія работнікі.

З беларускай апазіцыі павесяліў на мінулым тыдні Аляксандр Мілінкевіч. Хоць лідар „Руху за свабоду" — чалавек надзвычай сур'ёзны і слоў на вецер не кідае, зараз ён заявіў, што гатовы зноў стаць адзіным кандыдатам ад аб'яднанай апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года. Больш таго — па словах палітыка — ужо зараз трэба грунтоўна рыхтавацца да вулічнага змагання. Відаць, 2006 год быў для Аляксандра Мілінкевіча гэткай размінкай цяжкаатлета. Але чым тады для яго былі выбары і Плошча 2010 года?.. Дзе тут ужо простым смяротным зразумець такую глыбінную стратэгію. Але багатая зямля беларуская на апазіцыйныя таленты. Нядаўна яшчэ некалькі „лідараў нацыі" заявілі пра свае прэтэнзіі на палітычны алімп. Гэта і прадстаўнікі самай масавай, па іх словах, партыі, якая налічвае ажно сорак тысяч чалавек. Адмыслова не называю яе назву, настолькі яна вядомая ў народзе. Аб'явіліся і новыя-старыя левыя, якія маюць на мэце стварэнне сваёй магутнай партыі, што напэўна імгненна завалодае розумам і пачуццямі няшчаснага электарата, якому ўрэшце пакажуць ясны шлях.

Ні дня без анекдота — вось сапраўдны дэвіз нашага жыцця...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Чупакабра

Страшэнная бестыя, высмоктваючая кроў са сваіх ахвяр, дабралася ў Беларусь. Гэта не жарт. Называецца яна чупакабра. Паводле відавочцы скача тое штосьці па дахах, мае патлатую галаву, вязлівыя клыкі, а велічыні „недзе так паміж сабакам і кенгуру". Іншы сведка блізкай сустрэчы з монстрам параўноўвае яго дааграмаднага, гарбатага бабра з доўгім хвастом. Як бы тая чупакабра не выглядала, факт, што сёлетняй зімой стэрарызавала яна жыхароў Старобіна — мястэчка распаложанага ў 140 кіламетрах ад Мінска. Цяпер шалее ў Салігорску.

Чупакабра па-іспанску значыць „высмоктваючая коз", таму мае асаблівае ўпадабанне да іспанамоўных тэрыторый. Першы раз дала аб сябе знаць на Пуэрта-Рыка, былой іспанскай калоніі. Коз на гэтым бедным востраве не хапіла ёй надоўга, дык хутка перакінулася на людзей. Высмактаныя на нішто астравіцяне да сёння бядуюць. З Пуэрта-Рыка бестыя перанеслася ў іспанамоўную Мексіку, дзе бяды таксама нямала. А бяда прыцягвае яе як муху-чарвіўку да гнілога мяса. І там грэла месца нядоўга, і, што можа здзіўляць, наведала Беларусь, дзе больш ахвотна гавораць па-руску, чым па-іспанску і бяды як такой абсалютна быць не можа. Пра гэта ўжо дбае Аляксандр Лукашэнка, які нават калі абвесціць аб павышэннях цэн на мяса, дык справядліва балансуе іх павышэннем зарплат. І так коціцца ракавое кола.

Кажуць, чупакабра па сантыменце збіраецца ісці ў Іспанію, якая яшчэ да нядаўна качалася ў дастатках і раскошы. Беларусь мае быць для яе выключна транзітнай краінай. Аднак штосьці даўгавата там яна на папасе. Ад Салігорска да польскай мяжы папраўдзе добры кавал дарогі, ды што для яе адлегласць? Таму заклікаю войта Нарваўскай гміны, дзе ў мяне свая хата, каб не недаацэньваў пагрозы. Мусім супольна абараняць нашу супольную айчыну. Справа сур'ёзная. Трэба браць прыклад з улад Салігорска, якія паспрабавалі справіцца з праблемай. Паводле заявы намесніцы старшыні гарсавета Галіны Аляксандравай, стварылі там камісію з найлепшых спецыялістаў. Мае яна на сённяшні дзень даследаваць кожны выпадак атакі бестыі. Пара стварыць падобную камісію ў Нарве! У гэтым месцы заяўляю спантанна сваё далучэнне на яе старшыню — калі толькі гэтая пасада будзе платная. Бо з самога пісання ўтрымацца не ўдаецца, а да змагання з чупакабрай маю намер аддацца без рэшты. Якое гэта важнае, паказвае салігорскі прыклад. Тамашняе тэлебачанне б'е на трывогу — на працягу некалькіх тыдняў мясцовым уладам перадалі 16 скаргаў на крываліўцу, якога абвінавачваюць у пазбаўленні жыцця 358 хатніх звяроў, у большасці курэй і індыкаў, дзесятак свіней і на жаль аднаго сабакі — думаю, што выпадкова. Ну, што ж, высокія цэны мяса ў крамах дык кармою тлумачаць такую жыркасць. Тым больш, што жыхары Салігорска не атрымалі яшчэ абяцаных павышэнняў зарплат. Іншая справа, што лішак апетыту — грэх. Адзін з пацярпелых у выніку начной атакі бестыі страціў аж дваццаць курэй. Чупакабра вырвала дзве штыкецыны ў плоце і, пакінуўшы на іх сляды вялікіх зубоў, уварвалася ў куратнік. На жаль, адной курыцы выжарла пячонку, ды яе рэшта хоць прыдалася на булён. Іншых ахвяр уласнік куратніка закапаў у сакрэтным месцы, апасаючыся, што хтосьці іх выграбе і пацію прадасць, незалежна ад абмежавальнай забароны абароту мясам не ахопленым легальным забоем. Ды хто ведае, ці не схаваў ён мярцвячак у халадзільніку. У Польшчу, пакуль што, чупакабра яшчэ не дайшла. На маю думку, дзейнічае яна, аднак, у нашай краіне праз сваю агентуру. Ужо здаўна розныя «амберголды» высмоктваюць нам кроў. Шматгадовую бюджэтную дзіру таксама нельга залатаць, хаця дзяржава цырue яе штораз больш абсурднымі падаткамі. А хапіла б ж ж проста прынясць падаток ад дзіры. Я заплаціў бы без ваганняў. Ну, вядома, калі б войт прызначыў мяне шэфам камісіі. О, тады... Тады як платны эксперт па чупакабры займуся спачатку сваёй прыватнай дзіркай. Штомесяц прабую яе залатаць, і нічога. Усё зжырае мне чупакабра!

Міраслаў ГРЫКА

Вачыма еўрапейца

# Падстаўленыя?



Тыдзень таму ў гэтай рубрыцы я пісаў аб незадаволенасці, якую выказала шэсць няўрадавых арганізацый, займаючыхся анімацыяй культурнага жыцця ў Беластоку. Аб сітуацыі культуры ў падляшскай сталіцы дэбатавалі таксама ў час вельмі бурнай сустрэчы са шматлікімі беластоцкімі няўрадавымі арганізацыямі ў палацы Браніцкіх. Дайшло да яе па ініцыятыве варшаўскай фірмы STX Jamboree, арганізатара фестывалю „Pozytywne Wibracje", якога апошні выпуск выклікаў хвалю незадаволенасці. Гэтая імпрэза, незалежна ад вялікіх коштаў панесеных гарадскімі ўладамі, не прынесла чаканых імі вынікаў. Значыць, не карысталася такой зацікаўленасцю, як планавалася, і не спрычынілася да віднай і шырока разуметай прамоцыі Беластока. Пад канец верасня STX Jamboree выступіла да гарадскіх улад на размеркаванне на арганізацыю чарговага выпуску фестывалю „Pozytywne Wibracje" 2,5 мільёна злотых, значыць, на суму, якой не атрымліваюць арганізатары ніякай імпрэзы ў горадзе, перарастаючай усе фінансаваныя гарадскія мерапрыемствы, размяркоўваныя ў рамках гадавых конкурсаў на рэалізацыю задач у галіне культуры, мастацтва і нацыянальнай спадчыны (у тым ліку меншасных).

Сустрэча ў палацы, згодна з разасланымі запрашэннямі (большасць беларускіх арганізацый абмінулі) адбывацца мела пад лозунгам: „Пазнаёмімся — платформа супрацоўніцтва паміж арганізатарамі агульнапольскіх мастацкіх падзей прысутных у Беластоку ды Падляшскім ваяводстве". Усё звялося толькі да тлумачэння прадстаўніка STX Jamboree Станіслава Тшцінскага якія карысці плывуць для Беластока і яго жыхароў з факту, што якраз тут прадстаўляюцца канцэрты ў рамках двухдзённых „Пазітыўных вібрацый". За палацовым „прэзідыумным сталом" сядзела побач Станіслава Тшцінскага намесніца прэзідэнта Беластока па справах культуры Рэната Пшыгодская. Пасля шматхвіліннай арацыі Станіслава Тшцінскага дапусцілі да голасу запрошаных. Як можна было зразумець, ад імя шмат з іх выступіла прадстаўніца Фонду Універсітэта ў Беластоку Малгажата Скаўронская. Адчытала падрыхтаваны тэкст, у якім было заяўлена м.інш.: „Агенцтва STX Jamboree не з'яўляецца адпаведным партнёрам для культурных арганізацый для размовы на тэму размеркавання публічных сродкаў горадам Беласток у абшары культуры, паколькі не з'яўляецца размеркавальнікам гэтых сродкаў. З'яўляецца адным з магчымых выканаўцаў публічных заданняў у галіне культуры, хаця па невядомых падставах трактуецца горадам у асаблівы спосаб". Далей было адзначана: „Спосаб фінансавання фестывалю „Пазітыўных вібрацый" не толькі пярэчыць прынцыпам справядлівай канкурэнцыі, але і стварае вялікую дыспрапорцыю ў абшары размеркавання публічных сродкаў „на культуру". **Бюджэт двухдзённага, камерцыйнага здарэння перасягае вышыню ўсіх датацый размеркаваных на няўрадавыя культурныя арганізацыі ў дадзеным годзе, у тым ліку на арганізацыю іншых фестываляў — музычных, тэатральных, літаратурных (напрыклад такіх, як UP To Date, Białysztuk ці „Zebrane") з параўнальным да „Пазітыўных вібрацый" прызнаннем у лакальным асяроддзі і па-за ім (таксама за мяжой), але ў адрозненне ад фестывалю „Пазітыўныя Вібрацыі" не толькі значна больш даступных для жыхароў, але і апяраджваючых яго па прысутнасці".**

Станіслаў Тшцінскі, пасля выслухання гэтай заявы і некалькіх іншых выступленняў сказаў : „Я меў бы волю пагаварыць пра сам фестываль, ці ён файны ці не". Намесніца прэзідэнта горада Пшыгодская: „Фінансавая сітуацыя Беластока цяжкая. Маёй роляй з'яўляецца будаванне стратэгіі на будучыню, прамоцыя. „Пазітыўныя вібрацыі" мелі быць тым фестывалем, які падтрымае горад у прамоцыі. Скарачэнні ў бюджэце горада мусяць наступіць ва ўсіх абшарах, у тым ліку і ў культуры".

Не прагучаў адказ, ці „Пазітыўныя вібрацыі" атрымаюць тыя 2,5 млн. зл., і ці ўвогуле будуць у Беластоку арганізавацца, ані як далей будуць трактавацца няўрадавыя арганізацыі, якія займаюцца культурай у горадзе. У прынцыпе не прагучаў ні адзін адказ наконт будучыні беластоцкай культуры. Сустрэча была вельмі спраўна па сацыятэхніцы разыграна Станіславам Тшцінскім пры дыпламатычным удзеле пры яго боку пані віцэ-прэзідэнт.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# У Случанцы навіна

■ Тэкст і фота
Агаты АРЛЯНСКАЙ




— Сардэчна сустракаю спадарства, — вітае 6 кастрычніка ў асенняй Случанцы Гарадоцкай гміны войт Веслаў Кулеша вяскоўцаў і іхніх гасцей на ўрачыстым адкрыцці і пасвячэнні адноўленай вясковай святліцы. — Ужо ў мінулым годзе яна была адноўлена, але аж сёння яе ўрачыста адкрываем.

Войт прывітаў жыхароў на чале з салэцкай радай і солтысам Аляксандрай Тарасэвіч, святароў — каталіцкага і праваслаўнага, прадстаўнікоў Гміннай рады, між іншым, Анну Пэтэльскую, моцна звязаную з мясцовасцю, калектывы, прыбыўшыя на канцэрт, аздабляючы свята — капэлу „Хутар”, „Расспяваны Гарадок”, „Асенні ліст” ды маладую „Вэну” з Гарадка і залучанскую „Каліну”.

— Улады гміны вядуць праінвестыцыйную палітыку, — ганарыўся Веслаў Кулеша. — Гэта значыць, стараемся зрэалізаваць як найбольш інвестыцый, карыстаючыся і вонкавымі сродкамі, асабліва еўрасаюзнымі. З больш чым дваццаці інвестыцый рэалізаваных у апошні час былі інвестыцыі, што датычылі рамонтаў вясковых святліц, між іншым, у Меляшках і ў Случанцы, па Праграме развіцця вясковых абшараў. На сходах мы раней абмяркоўвалі, што трэба было б зрабіць для вёсак. Калі была ініцыятыва рамонту святліцы, мы на сесіі яе адобрылі, падрыхтавалі дакументацыю, пахадайнічалі і за вонкавыя сродкі. Падалі мы былі заявы на святліцы ў Меляшках і Случанцы, атрымалі на абедзве каля 300 тысяч злотых, гэта было 75 працэнтаў з вонкавага дафінансавання. Пасля таргоў на выкананне аказалася, што на рамонт паасобных святліц трэба будзе па 127 тысяч злотых. Рамонт у Случанцы быў грунтоўны — ад падмуркаў па дах, толькі сцены можна было захаваць. Цешуся тым, што так ён удаўся, а наша спатканне стане пачаткам вясковых сустрэч — з уладамі, мастацкіх, сямейных і вясковых. Спадзяюся, што сама вёска будзе вельмі актыўнай. Ужо на сёлета, разам з Гмінным цэнтрам культуры, плануем цыкл сустрэч з вядомымі людзьмі, на першы раз — з вядомым у Польшчы маладым пісьменнікам, выхадцам са Случанкі Ігнатам Карповічам. Разлічваю і на тое, што ў Случанцы ўзнікне мастацкі калектыў, вакальны, а можа нават і танцавальны *(аплаўз сярод слухачоў)*. Спадзяюся, што святліцай будуць карыстацца і старэйшыя, і моладзь, якой тут ужо не так і многа.

— Гэтая святліца вельмі важная для культуры, — адзначыў дырэктар Гміннага цэнтра культуры Юры Хмялеўскі. — Я хацеў бы, каб гэты аб'ект служыў усім жыхарам, і не толькі тутэйшым, а і тым, хто прыязджае сюды штораз часцей. Каб была яна цэнтрам лакальнай культуры. Падрыхтавалі мы, як ГЦК, праект, які датычыць культуры для такіх малых грамадскасцей. Будзе гэта такі цыкл вечарын, на якіх будуць прэзэнтавацца звычаі, фальклор, песня, творчасць і культура нашай гміны для жыхароў вёскі. Калі гаворка пра вакальны калектыў, які мог бы ўзнікнуць, дык раней у Случанцы добра спявалася. Выдалі мы нядаўна спеўнік, да якога песні сабраў Сцяпан Копа, у якім зафіксаваны песні спяваныя жыхаркамі Случанкі.

— Што плануеце, дзяўчаты, рабіць у святліцы? — пытаюся ў святочна апранутых спадарынь Аліцыі Паплаўскай з роду Трахімчык і Міраславы Лукшы.

— Няхай бы сабе зайсці, каўку выпіць разам... Сустрэнемся, пагаворым, паўспамінаем даўні час... — кажа Міраслава.

— Успомнім, як то былі маладыя, — дадае Аліцыя. — Мы ж не калісь будавалі, нашу святліцу. Шалявалі, усярэдзіне ўсё зрабілі. Бар, сцэну таксама рабілі.

— Дзеці, унукі будуць цяпер нашы сюды прыходзіць. Мы калісь тут забавы рабілі, добра гулялі, — прыгадвае Міраслава.

— Тут наша школа стаяла ў падворку, — паказвае Аліцыя. — Такая сама хата была. Там мы вучыліся да чацвёртага класа. Наш настаўнік прысутны на імпрэзе, моцна змяніўся, даўно яго я не бачыла — Карэцкі Казімеж, з Кандратак, тут ён ажаніўся. Наша школа была зараз унізе, пад гэтаю ліпкаю. Пасля тае школы была зляўня-малачарня, перасталі малако прымаць, прадалі яе. Разабралі. Цяпер то школа і непатрэбная. Я адсюль, а мая мама з-за рэчкі, з Каралёвага Стойла, а там самы Шэрэмэты.


Сям'я Надзі і Івана Тарасэвічаў з дачкой Ірынай, унучкай Анжэлай і праўнучкамі Каміляй і Амэліяй

Аліцыі дваюрадны брат Веслаў Трахімчык:

— Найбольш у вёсцы Тарасэвічаў. Паплаўскіх менш.

— Усе ў нас свойскія. Цяпер трыццаць пару хатаў. Было сорак. Тата мой умёр, ужо пустая хата. Я прыехала, ужо не раблю, — працягвае Аліцыя.

— Добра, што аднавілі святліцу. Можам нават сарганізавацца на гэтыя зімовыя цёмныя вечары, хай і толькі паміж сабою. Заміж сядзець кожны ў хаце, — прапануе Міраслава. — Збярэмся, пагаворым з гадзінку і разыдземся....

Мар'янна Апановіч з Залук мае ўжо справу да солтыскі Олі Тарасэвіч:

— Трэба будзе паведаміць усіх пенсіянераў, каб у святліцы сабраліся. Бо сёлета ў гміне трэба выбраць новага старшыню. Ёсць і матэрыяльная падтрымка для іх, а не ўсе людзі пра гэта ведаюць, а будзе восень і дзень сеніёра... Хай у сераду, ці ў чацвер збяруцца...

— О'кей, — усміхаецца жвавая бялявая солтыска. — Давайце дакладную дату, дык і збярэмся. У сераду ў 17. Хай я толькі пасля гэтага адкрыцця ахалону, зараз і павядомлю, — і дадае: — Я ўжо солтысам тут другі тэрмін. 36 гадоў салтысаваў Іван Тарасэвіч, пасля яго былі Паплаўскі, Паплаўская, а цяпер зноў Тарасэвіч — Аляксандра. Вядома, з энергіяй я ўзялася за справу. Каб быць солтысам — трэба штосьці зрабіць. А як то — сядзець і толькі падаткі сабраць, і зноў сядзець дома? Трэба дзейнічаць. Не будзем чакаць, што нам сарганізуе гарадоцкі дом культуры. Думаю, што рушымся. Афіцыйнае адкрыццё — было. Так што ўжо можна гуляць! Была ў нас ужо адна „васемнаццатка”. Пакуль не маем тут сталоў, крэсел, посуду, трэба ўсё зносіць. Пастараемся прыдбаць нейкае абсталяванне, тэлевізар. Пачнем ад сталоў, ад крэслаў, і патрошкі будзем збірацца.

— Старому няма чаго лезці да іх, — жартуе Іван Тарасэвіч. — 36 гадоў быў я солтысам, даволі... нямондры быў, каб столькі выдзяржаць. А цяпер застаўся... найдурнейшы на ўсю гміну. Чом? Яшчэ картоплі на рынак вязу, карову маю, цяля, свіней пару штук, курэй... „Няхочучы” гаспадарым з Надзяй патроху. Калі б не гаспадарыць, то што было б рабіць? Так то хоць занятак ёсць. А ўжо маю 84 гады, Надзі 81. Колькі людзей жыве ў Случанцы? Малютка, з шэсцьдзесят жывых душ. Будынкаў нумароў 42. Хаты ўсе стаяць, хоць і ёсць амаль пустыя. У Беластоку людзі сядзяць, прыязджаюць на нядзелю ці навесну. Маладыя наедуць — такі шум, а ад'едуць — сумна. Як здароўе? Яшчэ пакуль картоплю капаў. Пасадзіў яе замнога, цэлае паўгектара. Сварыліся на мяне, але я інакш *зажондзіў:* на душу „пару” (два радкі) картошкі нас саміх і дзіця — атрымаецца тры пары. Двое дзяцей — чатыры пары. І на пню можаш выкапаць што хочаш! Пазбіраліся — выкапалі. У апошні дзень капалі чалавек дзесяць, засталося на нас двое, нямнога. Унучка заехала дахаты, кажа, што аж галава забалела. Такі кавалак выкапала!.. А сёння на імпрэзе кажа: „Ужо галава не баліць”... Святліца нам, старым, можа мала і патрэбная, але маладым прыдасца. Маладых мала, бо ж яны параз'язджаліся, парасходзіліся. Добра, што будынак ёсць, знойдзецца і дзейнасць. Унукі, праўнукі паявяцца — весяло. Усіх нас разам — чатырнаццаць душ: пяць праўнукаў, шэсць унукаў. Пазбіраюцца ў Вялікдзень ці Каляды — поўная хата. Нам, старым, да ста трэба дацягнуць! — смяецца Іван Тарасэвіч. — Наша хата во за святліцай...

— Не пазнала, так яна прыгожа ашаляваная. Думала, новая хата з нумарам 24?

— Яна і была абабітая, але колер быў непрыгожы, не падабаўся, і перамаляваць не давалася. О, я вам дошак нарэжу і нагаблюю, кажу маладым, а шаляваць — як сабе хочаце. Унуччын муж гэтым займаецца — ашалявалі, памалявалі як хацелі. Мы тут за беларушчыну. „Ніву” ў кіёску ў Гарадку куплялі. Кіяскёр кажа: „Беларус то не трус”, калі „Ніву” купляе і чытае. Калісь то польскія газеты мала хто купляў. Цяпер усе менш чытаюць. І акуляры мала памагаюць. Абы да ста дацягнуць, а там — будзе відна!

— Случанка для нас, для гміны і дому культуры ў Гарадку, вельмі важная вёска, — кажа дырэктар Юры Хмялеўскі. — Гляньце — хто з гэтай вёскі паходзіць: рэктар універсітэта ў Пецярбургу, маюць свае карані тут мастак прафесар Лявон Тарасэвіч, пісьменнік Ігнат Карповіч. Мы як дом культуры маем важны праект і будзем прасіць вашай дапамогі. Апрацоўваем культурнагістарычны шлях. Хочам кожную вёску адзначыць на гэтым шляху, паставіць у кожнай інфармацыйную табліцу, дзе будзе запісана гісторыя; калі вёска ўзнікла, адкуль яе назва... А наступную сустрэчу зробім зімою (можа яшчэ восенню), пакажам вам вячоркі.

— Пара брацца за танцы, бо ўжо пасядзелі, пачаставаліся, — пачаў Янка Карповіч з „Хутара” мастацкую частку сустрэчы. — Я тут калісьці іграў на забавах, і хацеў бы вярнуцца да тае атмасферы, якая тут панавала. На пачатак песня „Толькі з табою”. Спяваем усе!

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# Беластоцкія візіі

**Наракаў я тут быў крыху на камунікацыйны хаос у Беластоку. Аднак наракаю на гэта не толькі я; іншыя карыстальнікі беластоцкіх вуліц нават праклінаюць пастаянныя раскопкі гарадскіх камунікацый, пастаянныя змены аўтобусных маршрутаў. Ды не толькі карыстальнікі самаходаў маюць клопаты з арыентацыяй у сучасных непастаянных — можна нават сказаць мабільных — вулічных лабірынтах; таксама і пешаходам прыходзіцца абмінаць шматлікія вулічныя катлаваны і раскіданыя тратуары. А пешаходамі ў сучасны час з'яўляюцца ў прынцыпе пажылыя асобы, якім не толькі цяжэй перамяшчацца, але і больш складана арыентавацца ў закавулках дынамічнай камунікацыйнай тапаграфіі. Шафёрам жа і ўсялякім іх пасажырам прыходзіцца шмат часу каратаць у даволі буйных пробках.**

Але хаос узнікае найчасцей там, дзе адбываюцца нейкія рэвалюцыйныя перамены. Кранае гэты клопат, здаецца, усе рэвалюцыі, не толькі найбольш у нас праслаўленыя сацыяльныя перавароты. А ў Беластоку зараз жа адбываецца менавіта рэвалюцыя — інфраструктурная. Скарыстоўваючы спрыяльныя гэтаму роду мерапрыемстваў еўрасаюзныя сродкі, нашы гарадскія ўлады прымяркоўваюць горад да новых цывілізацыйных выклікаў, у тым ліку і да камунікацыйных змен. Яшчэ ж нядаўна, калі самаход быў у нас адносна вялікім рарытэтам, існуючая гарадская інфраструктура хапала для задавальнення камунікацыйных патрабаванняў. Дарэчы, яна не была разлічана на масавы аўтамабільны рух.

Вось гартаю архіўныя старонкі мясцовай штодзёнкі „Gazeta Białostocka" шасцідзесяцігадовай даўнасці. Адзіная тады беластоцкая шматтыражка найбольш месца адводзіла расхвальванню ўсяго „сацыялістычнага" і апаганьванню ўсяго іншага. Бо ж асноўнай задачай тадышняй прэсы ў межах „трэцяй часткі зямнога шара" было выхаванне менавіта „сацыялістычнага" чалавека; працэс гэты, здаецца, найбольш паспяхова прайшоў на тэрыторыі цяперашняй Беларусі ды і ў нас хіба таксама даў нейкі плён. Шмат матэрыялаў прысвячалася калектывізацыі; у 1952 годзе галоўны калектывізацыйны наступ у Беластоцкім ваяводстве — не ўлічваючы трох паветаў на тэрыторыі былой Усходняй Прусіі — быў накіраваны на тадышні Бельскі павет, а дакладней — на яго ўсходнюю частку. Газета многа пісала таксама пра паўсюднае спаборніцтва — спаборнічалі ўсялякія суб'екты, прымалі яны ўсялякія абавязацельствы пад усялякія нагоды. І вельмі-вельмі рарытэтна, бадай раз у год, раскрывалася візія будучыні самога ваяводскага горада, у якім у той час было яшчэ шмат друзу, пакінутага вайной.

Вось такая рарытэтная „Газета" ад 14 кастрычніка 1952 года пісала: „Plan ogólny budowy i rozbudowy Białegostoku z największą troskliwością uwzględnia wszystkie cechy socjalistycznego ośrodka. Pierwsze dwa etapy realizacji zostaną zakończone w 1960 roku. A wtedy wracając z podmiejskiej wycieczki wysiadasz na peronach nowego dworca, który powstanie po drugiej stronie torów, bliżej miasta. Tu na pięknym, obudowanym nowymi gmachami placu czekają na ciebie i wszystkich przyjezdnych białostockie trolejbusy i autobusy. I jeśli przyjedziesz w towarzystwie gości nie znających jeszcze twego miasta, zaproponujesz im spacer. I pójdziecie nowymi ulicami Białegostoku, a przede wszystkim białostocką trasą W-Z. Białostocka trasa W-Z stanie się kręgosłupem miasta. Powiąże wszystkie dzielnice począwszy od Dojlid, poprzez Bojary, Śródmieście do Antoniuka. Ta wielka arteria zabudowana zostanie czterokondygnacyjnymi gmachami użyteczności publicznej i mieszkalnymi, w których na parterze będą mieściły się sklepy, magazyny odzieżowe i kawiarnie". У апошніх сказах мова пра цяперашнюю Алею Пілсудскага. Як было там у 1960 годзе — не ведаю, але сёння швейных магазінаў там няма; каву там пэўна можна выпіць у бадай двух гастраномах, якія ў прынцыпе прапануюць іншае меню. Трасай W-Z названа яна была толькі ў праекце; у 1956-1990 гадах называлася яна Алеяй 1 Мая. А да 1956 года вуліцай 1 Мая была з 1949 года цяперашняя вуліца Сянкевіча…


Алея 1-га Мая - зараз Пілсудскага (фота архіў Нівы)


Вул. Складоўскай (фота архіў Нівы)

„Piękną arterią, zamienioną w aleję spacerową widoczną do miasta, stanie się ulica Stalina (гэта цяперашняя Ліпова). Przeznaczona będzie głównie dla ruchu pieszego. Wzdłuż ulicy staną 4-i 5-kondygnacyjne gmachy, w których (na parterach) znajdą pomieszczenia biura i urzędy oraz sklepy. Lokale na piętrach przekazane zostaną mieszkańcom Białegostoku. Opodal kina „Pokój" stanie 7-kondygnacyjny Powszechny Dom Towarowy, w którym białostoczanie będą mogli zaopatrzyć się we wszelkie towary i artykuły. Na parterze tego wspaniałego gmachu otwarta zostanie kawiarnia. Z ulicy Stalina będzie można się dostać przez tzw. „prześwity", czyli bramy przelotowe zbudowane w kamienicach, na inne ulice śródmieścia i do wybudowanego parku dzielnicowego. Tu znajdować się będzie Dom Kultury i Pałac Dziecka". Візія шасцідзесяцігадовай даўнасці амаль поўнасцю збылася, толькі не на працягу прадбачваных васьмі гадоў, калі Домам культуры назваць толькі што адкрыты Еўрапейскі цэнтр мастацтваў (Падляшкую оперу і філармонію), а Дзіцячым палацам — Лялечны тэатр; універмагі на сённяшні дзень выходзяць акурат на акраіны горада. І замяж biur і urzędów маем процьму разнамасных банкаўскіх кантор.

„Dzisiaj wszelkie pochody odbywają się na ulicy Stalina, Rynku Kościuszki i ulicy Kilińskiego. A jutro dumni z naszych wielkich osiągnięć manifestować będziemy swą radość i siłę w uroczystościach na Alei Pochodów, która stanowić będzie piękny akcent socjalistycznego miasta. Szeroka o dwóch jezdniach, obudowana gmachami 5-kondygnacyjnymi, reprezentacyjna Aleja Pochodów — druga wspaniała oś naszego miasta będzie biegła od Domu Partii przez obecne tereny wystawowe i ulicę Piwną do Ronda Zwierzynieckiego. Aby aleja ta nabrała „zamieszkałego" charakteru przewiduje się, oprócz wybudowania gmachów użyteczności publicznej, domy mieszkalne". Гэта цяперашняя вуліца Марыі Складоўскай-Кюры. Няма Алеі шэсцяў, бо і няма тае пампезнае паказухі, якая маскіравала невясёлую штодзённасць; беластоцкія шэсці, у прынцыпе, адбываюцца толькі ў Божае цела, тым жа самым што і калісь маршрутам паміж касцёламі Фарным і Роха — па вуліцы Ліповай-Сталіна… А Алея шэсцяў была атрымала ў беластоцкім фольку іншую, паэтычную назву: *Rządzą* (будынак Ваяводскага камітэта партыі), *sądzą* (суды), *nic nie dają* (будынак прафсаюзаў), *a na końcu wykańczają* (шпіталі)…

„Kochasz na pewno sport. Chętnie oglądasz mecze piłki nożnej czy inne zawody. Otóż Aleja Pochodów powiedzie cię na nowo wybudowany reprezentacyjny, wojewódzki stadion sportowy, który powstanie między ulicami Świerkową, Wiejską i Szosą Południową (цяперашняя вуліца Каперніка). Stadion obliczony na 20 tys. widzów będzie posiadał boiska do rozgrywania zawodów, boiska treningowe, korty, pływalnie i tory wyścigowe". Калі ўвесці невялікія тапаграфічныя карэктуры ды палічыць гоначныя дарожкамі шорт-трэк, а каток змарожанай вадзічкай з мікрабасейна, тады спартыўны комплекс па вуліцы 11 Лістапада можна лічыць нейкім відам здзяйснення колішняй візіі.

„Jeśli zaś będziecie chcieli obejrzeć ładny film, wrócicie na Aleję Pochodów, przy której zostanie wybudowane nowoczesne kino, lub pojedziecie białostockim trolejbusem do innej dzielnicy miasta, do innego kina. Wychodzicie z kina i żegnacie się do następnego spotkania. Dzisiaj przemierzasz długie ulice ze śródmieścia do swego domu, z domu do miejsca pracy. Masz szczęście jeśli zdążysz na psujący ci często nerwy samochód MZK. Lecz za osiem lat nie będziesz już przemierzał w pośpiechu miasta. Wsiadasz do wagonu miejskiej kolejki elektrycznej, która będzie kursować wzdłuż Białegostoku. Kliniesz nieraz, kiedy wpadnie ci do oka sadza z komina elektrowni miejskiej. A za 8 lat w trosce o zdrowie mieszkańców i czystość miasta nowe zakłady przemysłowe znajdą się poza obrębem Białegostoku". Апошняе сфармуляванне не надта дакладнае, бо хто ж шэсцьдзесят гадоў таму мог быў прадбачыць, што новыя заводы паўстануць тысячы кіламетраў за вобрубам нашага славутага горада з камунальнай электрачыгункай.

Прывёў я тут некаторыя толькі фрагменты колішніх беластоцкіх спадзяванняў. Можна было б тут прыводзіць і іншыя вытрымкі, кранаючыя тагачасныя прароцтвы ці нават звычайныя падзеі не толькі ў межах Беластока. Змяніўся вельмі краявід не толькі горада, але і ягонага наваколля. Вось, для прыкладу, сучаснай трасай з усходу на захад лічыцца ў Беластоку г.зв. Генеральская траса, якая зараз грунтоўна перабудоўваецца. Калі шэсцьдзесят гадоў таму важнымі былі пытанні масавага пасажырскага транспарту, дык сёння яны страцілі сваю вагу. І не камунальная чыгунка выручае гарадскія аўтобусы, але легкавушкі, у тым ліку і таксі, пра якія ў час змагання з прыватнай уласнасцю нават не згадвалася. І менавіта з-за гэтых легкавушак робіцца на беластоцкіх вуліцах цесна, усё цясней, і дзеля іх трэба нешта новае выдумоўваць, трэба мадэрнізаваць старыя камунікацыі, пракладваць новыя і спаглядаць у зусім іншую будучыню чым тая, якую прыдумалі былі класікі пануючай тады ідэалогіі. І трэба рыхтаваць Беласток не пад 1960 год, а пад XXI стагоддзе. Але ці цяперашняе раскопванне горада калі-небудзь завершыцца — складана здагадвацца, бо ж непаседлівы чалавек быццам увесь час у пробках, усё шукае нейкіх нязведаных раней дарог. А звычайнаму чалавеку прыходзіцца толькі падпарадкоўвацца тым усялякім фанабэрыям, не толькі камунікацыйным, не толькі калектывізацыйным, не толькі банкаўскім…



Злева: Анджэй Парафінюк, міністр Альжбета Бянькоўская і ваявода Мацей Жыўна

# Інтэлігентная спецыялізацыя

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Дзень пасля таго як у Беластоку адбылася дэбата, прысвечаная развіццю Усходняй Польшчы ды дзень да дэбаты аб гаспадарчым супрацоўніцтве паміж Польшчай і Беларуссю, у Мінску прэс-сакратар беларускага Міністэрства замежных спраў Андрэй Савіных не пакідаў ілюзій:

— Беларусь пакуль не гатовая весці больш пашыраныя працы з Польшчай над паразуменнем аб малым памежным руху. Палітыка, якую вядзе польскі істаблішмент у двухбаковых адносінах, стварае вельмі неспрыяльны клімат і пакуль, пры нашым вялікім шкадаванні, мы не ў змозе кіравацца ў гэтым напрамку.

Так вось адзін з шанцаў м.інш. на развіццё польска-беларускіх памежных рэгіёнаў прынамсі, пакуль, разваліўся.

Сёлетнюю канферэнцыю „Сапраўдная Еўропа рэгіёнаў і развіццё Усходняй Польшчы" арганізавалі ў Беластоку ўжо другі раз (17 кастрычніка). Падобна, як год таму, і цяпер яе мэтай было перш за ўсё стварэнне эканамічных выраўнэнняў, узмацняючых канкурэнтаздольнасць макрарэгіёна Усходняй Польшчы ў краіне і за мяжой, значыць, Падляшскага, Вармінска-Мазурскага, Люблінскага, Падкарпацкага і Свентакшыскага ваяводстваў. Прынялі ў ёй удзел, па-за прадстаўнікамі самаўрадавых улад рознага ўзроўню, м.інш. кіраўнікі прамыслова-гандлёвых палат, агенцтваў рэгіянальнага развіцця ды прадпрымальнікі.

Падляшскі ваявода Мацей Жыўна звярнуў увагу:

— Усходняя Польшча гэта не толькі экалогія і прырода. Мае яна і вялікія інвестыцыйныя магчымасці. Развіццё павінна тут абапірацца на мясцовых прадпрымальнікаў.

Падляшскі маршалак Яраслаў Дважанскі паскардзіўся на недахоп выгаднага дарожнага і чыгуначнага спалучэння Беластока з Варшавай і восі, якая злучала б поўнач краіны з поўднем, а прабягаючай праз усходнія ваяводствы ды на недахоп далейшых палягчэнняў у супрацоўніцтве з Усходам:

— Надалей патрабуем ліквідацыі інфраструктурных бар'ераў, галоўным чынам з мінулага часу (гаворка пра ПНР — М. Х.). Мы для сябе і ва Усходняй Польшчы з'яўляемся адлеглымі ў геаграфічным плане краінамі. Неабходнае ў нашым рэгіёне супрацьдзеянне змяншэнню колькасці насельніцтва.

Прэзідэнт Беластока пачаў выступленне ад напаўсур'ёзнага выказвання, выклікаючы аднак лёгкую збянтэжанасць сярод гасцей з Польшчы: „Праблемаў з дахам наш гарадскі стадыён не будзе мець, бо не будзе ён мець даху (...). На тое, што не маем у Беластоку аэрапорта, можна глядзець аптымістычна. Цяжка да нас прыляцець, але і цяжка адляцець. Тыя, хто да нас прыязджаюць, таму застануцца ў нас надаўжэй (...). Як кажа мая суседка: „Не той багаты, што мае многа, а той, каму мала трэба". Гэта сведчыць аб тым, што маем тут у нас невычэрпныя залежы аптымізму".

Зусім сур'ёзна заўважыў:

— Згодна з урадавым праектам, Беласток не палічылі метрапалітарным абшарам. Гэта не значыць, што мы не выконваем крытэрыяў. Будзем гэта адзначаць у новай стратэгіі развіцця ваяводства.

Ліст ад імя прэзідэнта Браніслава Камароўскага, ганаровага патрона мінулагодняга і сёлетняга выпуску, прачытаў яго дарадчык Ян Літынскі. Прэзідэнт напісаў м.інш.: „Няма ніякіх падстаў для таго, каб гэтая частка нашай краіны асацыявалася толькі з ідылічнай Аркадыяй, а пазбаўлена была карысцей плывучых з інтэнсіўнага, хаця ўстойлівага развіцця (...). Слушна звяртаеце ўвагу на тое, што патрэбнай з'яўляецца новая Аперацыйная праграма, якая акрэсліве прыярытэты развіцця Усходняй Польшчы на 2014-2020 гады (...). Адным з ключавых выклікаў з'яўляецца разбудова тутэйшай транспартнай інфраструктуры, рэалізацыя вялікіх праектаў: Rail Baltica, Via Baltica і Via Carpatia. Аднолькава важным з'яўляецца стварэнне ўмоў для інвеставання, вызначанне карысных для гэтых рэгіёнаў галіновых і тэхнічных спецыялізацый, а таксама рост інавацыі і гаспадарчай канкурэнтаздольнасці. Можна спадзявацца, што створаны ў Беластоку Навукова-тэхналагічны парк значна да гэтага спрычыніцца, падобна як існуючае супрацоўніцтва паміж навуковымі асяроддзямі і бізнесам.

Патрык Амблар, дырэктар аддзела па справах Польшчы пры Еўрапейскай камісіі ў сваю чаргу спаслаўся ў сваім выступленні на сусветны крызіс, які ў будучым годзе можа рашуча адбіцца на Польшчы і рэгіёне. Звярнуў увагу на неабходнасць кантролю публічных фінансаў, зрэалізаванне „структурных рэформ патрэбных для пуску ў рух патэнцыялу росту" ці „падыманне інвестыцый, спрыяючых росту і перспектыўнаму развіццю гаспадаркі".

— Гарады застаюцца маторам развіцця дабрабыту, таму будуць сэрцам росту. Польшча мае вельмі вялікія інвестыцыйныя патрэбы. Трэба будзе, аднак, выбіраць прыярытэты і дзейнічаць у інтэграваны спосаб.

З тэлебіма да ўдзельнікаў канферэнцыі прамовіў былы прэм'ер і старшыня Еўрапарламента Ежы Бузэк:

— Адпраўной кропкай для дыскусіі аб будучыні Усходняй Польшчы павінен быць факт супольнай стратэгіі пяці найслабей развітых ваяводстваў нашай краіны. Стратэгіі паасобных рэгіёнаў павінны адрозніваццa, але без супольных рысаў для ўсёй Усходняй Польшчы цяжка крэаваць рэгіёны і іх сілу. Аперацыйную Праграму развіцця Усходняй Польшчы трэба не толькі ўтрымаць, але і дзякуючы ёй узмоцніць тэмп развіцця гэтага рэгіёна (...). Любыя дзеянні, аднак, мусяць абапірацца на гэтак званыя інтэлігентныя спецыялізацыі ўсходніх ваяводстваў. Вы зрабілі першыя крокі. У вашым рэгіёне ўзрастае значэнне паслуг. Ваяводствы Усходняй Польшчы гэта ідэальныя абшары для харчовай прамысловасці, значыць, звязаная з сельскай гаспадаркай, перапрацоўкай драўніны, турызмам, але і прамысловасцю: авіяцыя, хімія, машынная прамысловасць. Гэта ж вашая спецыяльнасць. Кажам пра вас, што вы з'яўляецеся брамай усходняй Польшчы для ўсяго Еўрасаюза. Гэты вялікі козыр трэба поўнасцю выкарыстаць. Чарговай мэтай павінна быць мадэрнізацыя інфраструктуры. Такія інвестыцыі, як Rail Baltica ці Via Carpatia гэта шанцы на павелічэнне прыцягальнасці рэгіёна.

З Ежы Бузкам згодны быў Анджэй Парафінюк, старшыня Падляшскага фонду рэгіянальнага развіцця. У размове з „Нівай" сказаў ён:

— Кажуць, што будучы бюджэт на Аперацыйную праграму развіцця Усходняй Польшчы мае быць двойчы больш, чым той, якім цяпер карыстаемся. Важна, каб гэты макрарэгіён меў супольную стратэгію, як гэтыя грошы выкарыстаць. Важныя задумы, дзякуючы якім Усходняя Польшча зможа хутчэй прагрэсаваць. Сёння гэтая частка Польшчы толькі не траціць тэмп, затое не паскарае яго, не падганяе. Самае найважнейшае, не чакайма, аж Міністэрства рэгіянальнага развіцця ці Еўрапейская камісія запрапануюць нам як гэтыя грошы выдаць. Адна з задум гаворыць, што кальцавая Варшавы будзе інфраструктурным спалучэннем з Усходняй Польшчай. Гэта смешнае. Павінна быць тое, аб чым кажа прафесар Бузэк: спалучэнне поўначы з поўднем і добры чыгуначны шлях, які спалучае ўсю заходнюю Еўропу з поўначчу. Як найбольшую падтрымку мусіць атрымаць малое і сярэдняе прадпрымальніцтва, бо гэта на ім стаіць гэты макрарэгіён. Калі мае быць канцэнтратар (układ gwiaździsty) з Варшавы, гэта мае быць вельмі добры шлях, які спалучае ўсе гарады з Варшавай. Фрагмент пабудаванай дарогі ў Яжэва на шляху Беласток — Варшава не вырашае справы. Важна, каб можна было да нас лёгка даехаць, а не з'ехаць ад нас. Кажуць таксама, што дарога № 7 паміж Варшавай і Гданьскам таксама будзе моцна ўплываць на развіццё Усходняй Польшчы. Мусім старацца разбіць гэты тып мышлення.

Анджэй Арандарскі, старшыня Краёвай гаспадарчай палаты ў сваю чаргу ў размове з намі адзначаў, спасылаючыся на адну з тэм канферэнцыі — на трансгранічнае супрацоўніцтва:

— Кантакты Польшчы з нашымі ўсходнімі суседзямі з'яўляюцца вялікім шанцам на прагрэс, імі карыстаецца шмат польскіх прадпрыемстваў. Найлепшым прыкладам з'яўляецца тут старшыня Прамыслова-гандлёвай палаты ў Беластоку (Вітальд Карчэўскі — М. Х.). Гэты шанц не выкарыстоўваецца ў ста працэнтах. Усё залежыць ад таго, у якім напрамку пойдзе гаспадарчы прагрэс нашых суседзяў. З асаблівым клопатам глядзім на Беларусь, таму што адбываюцца там некарысныя гаспадарчыя працэсы, асабліва ў фінансавай зоне, што можа паўплываць на пасляблене супрацоўніцтва. Фінансавая сітуацыя Беларусі патрабуе хуткага ўмяшання.

Адзначыў:

працяг ☞11

## Ой даўно-даўно ў Нараўцы

7 кастрычніка бягучага года ў нараўчанскім Гмінным асяродку культуры выступілі вучні беластоцкіх школ са спектаклем „Ой, даўно-даўно".

Зместам спектакля з'яўляюцца ўспаміны дзядоў і бацькоў — сведкаў здарэнняў, якія адбываліся на нашай шматпакутнай Беластоцкай зямлі. Сучасная моладзь расказвае гісторыі сваіх сем'яў на гаворках канкрэтных вёсак Падляшша.

Нараўчанская публіка са зразуменнем і спачуваннем слухала апавяданні аб даўно мінулым, але не забытым. Асабліва крана額і нараўчан падзеі часоў гітлераўскай акупацыі і цяжкае пасляваеннае жыццё на Беласточчыне.

Цэлую гадзіну стаяла ў зале глыбокая цішыня. У ролях выступілі Дар'я Дажынка, Юлія Скаўронская, Юліта Цімашэвіч, Дар'я Вапа з Гімназіі № 7; Ігар Карнілюк, Оля Мазурук, Лідка Пякарская, Гаўрык Скаўронскі, Ніна Ваўранюк з ІІІ ліцэя; Кася Бялькевіч з IV ліцэя. Аўтарам сцэнарыя і пастаноўкі спектакля з'яўляецца настаўніца беларускай мовы Аліна Ваўранюк.

Выканаўцам спектакля падзякавала за выступленне дырэктар нараўчанскага ГАКу Ганна Стульгіс.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Ой, даўным-даўно

*Ой, даўным-даўно*
*было бедным сяло —*
*Каб адзецца палатно ткалі,*
*Абуваліся ў лапці з лазовай кары*
*І гаротныя песні спявалі.*
*Ой, даўным-даўно ў полі за сялом*
*Вораг расстраляў смелых партызан,*
*Вёскі папаліў, а ўсіх маладых*
*Вёз у Прусію, у няволю.*
*Не знаў вораг той, што не вечны ён,*
*Што яму не відаць перамогі,*
*Што савецкі салдат, не шкадуючы сіл,*
*Адрубае захопнікам рогі.*
*Ой, даўно-даўно жалі жыта сярпом*
*І халоднай вадой абліваліся,*
*І вязалі снапы, і лічылі капы,*
*На дажынкі ішлі, напіваліся.*
*А не так жа даўно выйшаў*
*у поле „Бізон"*
*Ды за дзень жніво было скончана.*
*Не змарыўся ніхто, і не ўпіўся ніхто —*
*Лёгка скошана ды змалочана.*
*Што было даўно — дзёрнам зарасло,*
*Адляцела далёка й не вернецца.*
*Толькі ў песнях народных*
*старое жыццё*
*Не забудзецца, астанецца.*

**Віктар ШВЕД**

## Наш стадыён

*Я ў Орлі думкамі ізноў*
*І заўжды буду ганарыцца,*
*Што навучаўся шмат гадоў*
*У Орлі, ужо дома быццам.*

*Мне падабаецца пачын*
*Арлянскай гміны ўсім вядомай.*
*Адзіная з суседніх гмін*
*Самаакрэслілася: хто мы.*

*Сваіх шануе грамадзян,*
*Імкнецца, каб ім лепш жылося.*
*Здзяйсняе свой амбітны план,*
*Які ўсё новае прыносіць.*

*Цешыць не толькі добры плён,*
*Разумее гэта Гміна,*
*Але і новы стадыён*
*На дзейсны спорт і адпачынак.*



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Як ружа ў букеце



Першакласнікі Гімназіі № 5 імя ксяндза Сымона Канарскага ў Беластоку сталі ўжо афіцыйна членамі супольнасці школы. У адпаведнасці з традыцыяй, вучні далі прысягу пад сцягам. Абяцалі, між іншым, берагчы родную мову, сумленна выконваць вучнёўскія абавязкі. Натуральна, што сярод першакласнікаў былі і такія, што вывучаюць беларускую мову.

— У першым класе адны хлопцы, — сказала настаўніца Альжбета Рудкоўская. — Таму я адчуваю сябе як ружа ў букеце, — смяецца. — Гэта першы год, калі я не толькі з'яўляюся іх настаўніцай, але і выхавацелькай. Лічу што ўсё будзе добра.

Пасля афіцыйнай часткі вучні раскрывалі свае таленты ў час артыстычных выступленняў. Хлопцы з першага „б" класа падкрэслілі тое, што яны вучацца беларускай мове. Куба сола зайграў на акардэоне „Калінку", а ўжо ўсе хлопцы праспявалі (як прыпомніў Янка) гімн Сустрэч „Зоркі" — „Купалінку".

— Можа некаторыя крыху хваляваліся, — тлумачыла Альжбета Рудкоўская. — Гэта ж іх першы выступ у новым навучальнвм годзе.

Аднак хлопцы адзначылі, што нічога не баяцца ў новай школе, апрача... настаўніцы хіміі. Жадаем поспехаў!

**Уршуля ШУБЗДА**

# Артыст у Нараўцы

28 верасня ў нашу школу завітаў незвычайны артыст — мім. Гэта была вельмі цікавая сустрэча, якая ўсім прысутным вельмі падабалася.



Артыст паказаў нам сваю гісторыю без дапамогі слоў. Потым запрасіў вучняў да супольнай забавы, якая была для ўсіх вялікай радасцю.

Гэтая сустрэча была не толькі формай гульні, але таксама навукай аб тэатры.

Гэтага дня ўсе выйшлі са школы задаволеныя і ўвесь час гутарылі на тэму таго, што пабачылі.

**Наталля ВАСЬКО**
І клас Гімназіі ў Нараўцы



мал. Дарыі Лябедзінскай з кл.IV а



Фота Ганны Кандрацюк

Ксэня Клімюк

## Загадка

Дваццаць без пятнаццаці, трох не далажыўшы, двух не далічыўшы. Колькі будзе?

## Прыказка

**Кніга** — маленькае акенца, ды праз яго ўвесь свет відзён.

## Што ведаеш, аб тым не пытайся

(беларуская народная байка)

Мужык воз сена вязе, а другі ідзе яму насустрач.
— Здароў!
— Здароў
— Што вязеш?
— Дровы.
— Якія ж дровы, калі ў цябе сена?
— А калі бачыш, што сена, дык навошта пытаешся!

Тады толькі мужык, пачухаўшы патыліцу, падумаў пра сябе: „А і сапраўды, навошта я пытаўся?".

# Конкурс пра восень (32)

Прывітанне, сябры! У нас праця тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам восені. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Ад якой з'явы ў прыродзе паходзіць назва лістапад?**

а) Ад лістоўніцы, якая мяняе на залаты колер калючкі.
б) Ад лістоў і паштовак, якія высылаем сябрам пад Каляды.
в) Ад лістоў, што спадаюць з дрэў.

**2. Якое хваёвае дрэва губляе іголкі на ўсю зіму?**

а) лістоўніца,
б) сасна,
в) елка.

**3. Якая назва беларускага праекта з музыкай Сяргея Пукста да фільма „Кастусь Каліноўскі", запрэзентаванага ў час беластоцкага фестывалю „CAMERA!TA"?**

а) „Тузін. Немаўля",
б) „Тузін гітоў",
в) „Тузін шэдэўраў".

Адказы дасылайце да 20 лістапада 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

Адказ на конкурс № 30: вожык (б); воўк (в); Каралева ў сонным лесе (б).

Сярод шматлікіх адказаў не было ні аднаго правільнага рашэння. Пастарайцеся ў гэты раз!

**ЗОРКА**

Фота Ганны Кандрацюк



*Максім з Дарагабыча пасля выхаду з царквы (Украіна, 7 кастрычнік 2012)*

# Музыка з кайфам

## Жывая музыка: Войцех Вагле́ўскі ў Беластоку



Аднойчы сустрэліся выдатныя кампазітары з Азіі ды Еўропы. Абмяркоўвалі мінулае і будучае музыкі. Слухалі творы, давалі лекцыі, гутарылі і называлі перспектывы сваіх калег з другога канца свету. Аднойчы праслухоўвалі Баха, класіка XVIII стагоддзя. Еўрапейцы, якія ганарыліся выкананнем, чакалі ацэнак калег. Устаў выдатны кампазітар з Індыі і гаворыць. «Сапраўды выдатна! Але гэта не музыка...». Якое ж было здзіўленне еўрапейскіх кампазітараў! Пайшла гарачая дыскусія. «Але ж ёсць такія гармоніі!» — гаварылі. «Ёсць такая цудоўная мелодыка» — закрычаў хтосьці. Індус пачакаў і спакойна адказаў: «Калі пару асоб гаворыць аднachасова гэта ўжо гармонія. Калі нехта ўвосугле загаворыць гэта ўжо мелодыя. Калі нехта ідзе і рухаецца цела гэта ўжо рытм». «Тады дзе музыка?» — дапытваліся калегі. «Музыка ёсць паміж. Яна ёсць, калі ў час выканання слухач адрываецца ад падлогі».

— Пабачыць поўную залу людзей, якія лётаюць, слухаючы музыку — гэта здараецца вельмі рэдка. Мне здаецца, што я тое пачуў толькі раз, — гаварыў падчас аўтарскай сустрэчы ў Беластоку Войцех Вагле́ўскі.

Лідар гурту «VOO VOO» сустрэўся з публікай пасля канцэрта, які дзень пасля прэм'еры «Новай плыты» (гэта загаловак альбома, які з'явіўся ў продажы дзень да канцэрта). Канцэрт у Беластоку быў першым у час новага тура па Польшчы і адбыўся ў час фестывалю «CAMERA!TA» (18-20 кастрычніка), таму гутарка з госцем закранала не толькі новы альбом, але і сувязі кампазітара з фільмавай музыкай, якой, дарэчы, Вагле́ўскі напісаў шмат. Пры нагодзе гутаркі распавёў гісторыю пра міжнародную сустрэчу кампазітараў.

— Самыя цікавыя саўндтрэкі ўзнікаюць тады, калі глядзіш карціну і ўжывую, эмацыянальна да яе граеш, — казаў госць. — Сёння публіка нават глядзела, здаецца, фільм «Чалавек калясак», з якім працавалі менавіта ў той спосаб і нават зладзілі некалькі паказаў, у час якіх гралі ўжывую.

Ужывую ў час фестывалю гралі таксама беларускія музыкі. Прэм'ерныя паказы фільмаў «Кастусь Каліноўскі» з музыкай Сяргея Пукста і «У агні народжаная», які агучыў гурт «Рэ1ікт», адбыліся ў рамках праекта «Тузін. Немаўля». Прайшлі яны вельмі паспяхова пры актыўным удзеле беластоцкай публікі.

i_basovka@o2.pl

*Я. Колас*

# Дуб

Сілачом стаіць
Дуб разложысты,
І здалёк відаць
Пышны верх яго.
У нагах трава
Нізка сцелецца,
А вакол ляжыць
Траўяністы луг.
У глыб зямлі ўвайшлі
Карані яго.
Крэпка дуб стаіць,
Не варушыцца!
Так размашыста
Параскіданы
Ва ўсе стораны
Лапы крэпкія.
Камель — слуп-скала,
Душа сілаю,
А ўгару зірнеш —
Шапка валіцца.
Дуж ты, дуб стары,
Сын вякоў сівых!
Многа бур ты знёс
На вяку сваім!
Налятаў віхор
З навальніцаю,
Ды не гнуўся ты
Перад бураю!
Гэй ты, дуб стары,
Вартаўнік лугоў!
Аддае твой шум
Спевам музыкай.
А пра што шуміш
І аб чым пяеш,
Пра што ведаюць
Ветры вольныя,
Што з табой вядуць
Мову сталую
У летні добры час
Або восенню.
Я паслухаю
Гэты шум лістоў,
А з іх гутаркі
Песня зложыцца.

# Польска-беларуская крыжаванка № 44

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 39:**

Вушка, балет, роў, калена, палёт, збор, сары, арт, мастак, эра. Вера, шоў, бас, порт, карта, бал, калёсы, лета, ген, тачыла.

Узнагароды, майкі з лагатыпам „Нівы", выйгралі **Анна Панькоўская** з Нараўкі, **Наталля Ніканюк** з Арэшкава, **Караліна Пахвіцэвіч**, **Дам'ян Масальскі**, **Кася Лукашук**, **Кацярына Ваўрэшук**, **Марыюш Асташэўскі** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Jak
Składka
Nadzia
Dziad
Ojciec
Kino
But
Ty
Sok
Dziecko
Dzik
Droga
Dzień
Dziadek
Szkoła
Ach!

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Новы Віктар Кабац

Жывапіс беларускага мастака Віктара Кабаца, выдатную большасць якога састаўляюць краявіды Белавежскай пушчы і яе наваколля, была распазнавальнай як для гайнавян, так і для іншых аматараў яго творчасці. Новы цыкл прац, якія паўсталі ў апошнім часе, прысвяціў ён пейзажам Ісландыі, якой жывапісец захоплены падобна як роднай яму Белавежскай пушчай.



У Педагагічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы Віктар Кабац прэзентуе навейшыя свае карціны з краявідамі Ісландыі і для параўнання паказвае работы з нашым пушчанскім і прыпушчанскім пейзажам. Удзельнікі адкрыцця выстаўкі «Востраў агню і вады Ісландыя. Зялёныя астравы Падляшша», якая адбылася 11 кастрычніка гаварылі, што на карцінах з ісландскімі матывамі бачаць не толькі новыя краявіды, але і новага мастака, які пайшоў у бок большай абстрактнасці сваіх прац. Калі б паказаць працы з пейзажамі Ісландыі на калектыўнай выстаўцы, многія яе наведвальнікі пэўна не распазналі б, што выйшлі яны з-пад пэндзля Віктара Кабаца. Тая ж самая, што і раней, тэхніка выканання новых карцін, сухая пастэль, спалучаная з тушшу і вадой, новыя незвычайныя краявіды марскога вострава і яшчэ больш абстрактны, чым раней, спосаб прэзэнтавання рэчаіснасці, усё ж такі робяць новыя работы цікавымі, а нават займальнымі. Сам мастак заяўляе, што нягледзячы на 77-гадовы ўзрост, адчувае сябе маладым на душы і не пакінуў творчых пошукаў.

— Для мяне самым важным з'яўляецца паказаць клімат краявіду, а не яго рэчаіснае адлюстраванне. Намерваюся гэта рабіць у будучыні на яшчэ больш абстрактных працах. Атмасферу паказваю з дапамогай колераў і асаблівай тэхнікі, якая не дазваляе зрабіць копій ранейшых работ або нават выканаць карцін падобных на ранейшыя працы. Усе мае карціны непаўторныя і гэта вялікая іх каштоўнасць. Надалей хачу творча займацца і шукаць новага ў сваім мастацтве, прынамсі да 100 гадоў свайго жыцця, — зажартаваў у гайнаўскай бібліятэцы Віктар Кабац і дадаў, што рэцэпт на яго надзвычай добрую фізічную і псіхічную форму гэта вельмі многа руху і частае прабыванне на прыродзе. — Я разам са сваім сынам Чаркам схадзіў польскія горы і пабываў у розных іншых месцах Польшчы. Дома многа часу хаджу па пушчы і нават калі працую ў сваёй майстэрні, карціны кладу на стол і раблю па некалькі кіламетраў удзень, таптаўшы вакол стала. Апошнім часам я захапіўся Ісландыяй, якую наведаў разам са сваім сынам і маю намер яшчэ там пабываць. Там зусім іншыя чым у нас краявіды, многа скал, вулканаў і ледавікоў, амаль няма раслиннасці. Але гэта таксама на свой спосаб захапляе. Шэрыя колеры, якіх большасць у краявідах вострава, могуць таксама ствараць асаблівы клімат на маіх работах.

Горы і скалы, ледавік і вулканы, пасляледавіковыя палі, скальныя каньёны, ці поле з лубінам гэта тэмы карцін з Ісландыі, прэзентаваных у Педагагічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы.

— Працы з пейзажамі Ісландыі, якія можна паглядзець у нашай бібліятэцы, мне вельмі падабаюцца. Новыя кампазіцыі і новыя колеры на работах нашага жывапісца выклікаюць асаблівае ўражанне, а пры гэтым спадар Віктар, як мастак, умее так цікава і займальна расказваць, гледзячы на краявіды з дапамогай розных колераў. Я ўжо захапілася краявідамі Ісландыі, якую напэўна цікава было б наведаць, — сказжа ў канцы мерапрыемства кіраўнік Педагагічнай бібліятэкі Ірэна Пракапюк.



Гайнаўскія белліцэісты на адкрыцці выстаўкі

Віктар Кабац вядомы ў Гайнаўцы таксама як грамадскі дзеяч. Дапамагаў ён арганізаваць многа выставак у Гайнаўцы ў Беларускім музеі, Публічнай і Педагагічнай бібліятэках, у галерэях у Нараўцы і Будах, ахвотна спатыкаецца з вучнямі і дарослымі, зацікаўленымі мастацтвам, актыўна дзейнічае ў мясцовых арганізацыях — Таварыстве аховы краявіду, Таварыстве аховы Белавежскай пушчы і іншых згуртаваннях, аб чым расказала сабраным Ала Мароз, бібліятэкарка Педагагічнай бібліятэкі, якая адкрыла выстаўку і расказвала пра творчасць Віктара Кабаца. Напомніла таксама пра сакральныя і свецкія помнікі яго аўтарства, якія знаходзяцца перш за ўсё на Гайнаўшчыне. Працы гайнаўскага жывапісца прэзентуюцца ў Педагагічнай бібліятэцы на абсталяванні, якое праектаваў сам мастак. Многа разоў выкарыстоўвалася яно для экспазіцыі мастацтва, перш за ўсё настаўнікаў і вучняў з Гайнаўшчыны, а таксама на педагагічныя выстаўкі. У Педбібліятэцы знаходзяцца таксама спраектаваныя Віктарам Кабацам падвешаная столь, шафкі і сталы. Сам мастак многа разоў ладзіў тут выстаўкі сваіх карцін. Вясной гэтага года гайнаўская Педбібліятэка распачала цыкл сустрэч у рамках праекта «Вядомыя гайнавяне», накіраванага да школьнай моладзі. Запрошаны быў, між іншым, гайнаўскі беларускі мастак Даніэль Грамацкі, прэзентаваліся ў бібліятэцы яго алейныя карціны. Віктар Кабац у час спаткання займальна расказваў пра Ісландыю.

— Ісландыя, гэта мой другі круг зацікаўлення незвычайнай прыродай, побач Белавежскай пушчы. Захапляюць мяне вельмі цікавыя на свой спосаб краявіды гэтага вострава, на якія глядзіцца перш за ўсё здалёк. Зусім інакш маецца справа ў нашай пушчы, дзе часта прыгожасць дубоў і іншых дрэў можна ацаніць, задзіраючы галаву высока ўверх. Пушчанская прырода мяняецца залежна ад пор года, а ў Ісландыі прырода амаль нязменная на працягу года і толькі зімой пакрывае востраў снежная пялёнка. Заўважальную частку Ісландыі састаўляе ледавік, які летам пачынае таяць і мяняецца ў розных колерах, што можна паказаць вельмі цікава на мастацкіх працах. Іншую частку гэтага вострава састаўляюць горы, якія прыкрывае лава, што паявілася тут пасля вывяржэння яе з вулканаў. На скалах растуць мох і карлаватая раслиннасць. Няма там раслинасці характэрнай для нашай прыроды. Гледзячы на незвычайныя краявіды, я задумваўся, як паказаць іх у мастацтве, як аддаць незвычайнасць клімату Ісландыі, — тлумачыў у бібліятэцы Віктар Кабац. — Пастэль спалучаная з тушшу дае рэзультат акварэлі з вялікай колькасцю вады. Калі свае працы прыкрываю шклом, канчатковы рэзультат маіх работ непрадбачаны, выпадковы і таму яны такія цікавыя.

Побач сваіх карцін Віктар Кабац паказваў вучням каляровыя здымкі з альбомаў аб Ісландыі. Белліцэісты слухалі выказванняў гайнаўскага мастака з вялікай увагай і ў цішыні, паколькі моцна зацікавілі іх расказы пра Ісландыю, а таксама карціны мастака.

— Вельмі спадабаліся нам аповеды Віктара Кабаца, цікавыя таксама яго працы, прэзентаваныя тут на выстаўцы, — заявілі ў канцы сустрэчы белліцэісткі Івона Лукашук і Эвеліна Куптэль.

Дарослыя ўдзельнікі адкрыцця выстаўкі таксама пахвалілі навейшыя работы Віктара Кабаца, іх кампазіцыю і падборку колераў.

— Карціны з Ісландыі гэта асаблівыя працы нашага мастака і такога яго жывапісу я яшчэ не бачыла. Адрозніваецца ён ад тых карцін, што паказваюць нашыя пушчанскія краявіды як колерамі, так і кампазіцыямі. Відаць, што спадар Кабац шукае новага і разгортвае свае мастацкія магчымасці, — сказала настаўніца беларускай мовы з белліцэя Іаланта Грыгарук.

— Калі звычайны чалавек глядзіць на дуб у Белавежскай пушчы, не думае аб паркеце, які можна з яго зрабіць, толькі захапляецца прыгожасцю гэтага дрэва. Падобна справа маецца з краявідамі Ісландыі, якія з'яўляюцца феноменам у прыродзе, — гаварыў Віктар Кабац і крыху азнаёміў сабраных з жыццём у Ісландыі. — На звыш 300 тысяч жыхароў гэтага вострава, ажно каля 10 тысяч асоб складаюць грамадзяне Польшчы, якія працуюць у Ісландыі, між іншым, у будаўніцтве і тартаках, якія рэжуць драўніну выкінутую з мора. У час авіяпадарожжа на востраў у самалёце можна спаткаць многа дзетак, якія разам са сваімі мамамі ляцяць наведаць бацькоў. Рэкі ў Ісландыі мяняюць сваё рэчышча і таму будуюцца там масты на колах, якія перацягваюцца нават на метраў сто ўбок, каб можна было перамяшчацца праз ваду. Каменне, якое застаецца ад папярэдняга цячэння ракі, транспартныя машыны распіхваюць набок.

Віктар Кабац захапляўся ў прысутнасці белліцэістаў каляровымі і асветленымі дзённым святлом пячорамі, што ўзніклі ў ледавіках і ўспамінаў таксама пра леснікоў з Польшчы, якія паспрабавалі пасадзіць некалькі гектараў лесу на тэрыторыях, дзе вада нанесла мул. Жывуць у Ісландыі таксама праваслаўныя, у галоўным расійская эміграцыя, і ёсць там царква, якую наведваюць таксама беларусы з Беласточчыны, што працуюць у Ісландыі. З адным з іх, з-пад Бельска-Падляшскага, прыйшлося мне пагаварыць у мінулым годзе. Быў ён задаволены высокааплатнай працай, але — так як і Віктар Кабац — сказаў, што цяжка навучыцца мясцовай мове і наракаў на цяжкі клімат і пыл, які вывяргаюць дзейныя вулканы. Два гады таму вулканічны пыл спаралізаваў авіяцыйны рух над Еўропай.

— У бліжэйшым часе я хачу яшчэ раз наведаць Ісландыю і канчаць цыкл ісландскіх прац. Закончыў я ўжо работы пра Курапаты і планую распачаць новыя, больш абстрактныя, чым раблю зараз, працы з цыкла «Чатыры поры года ў Белавежскай пушчы». Пастаўлю ў іх у галоўным націск на форму і колер, без рэалістычных адлюстраванняў, — заявіў пасля спаткання з вучнямі мастак Віктар Кабац.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Сакрэт азяранскіх могілак





Вёска Азяраны-Вялікія, што непадалёк Крынак, адметная між іншым тым, што мае сваю царкву і могільнік. Гэтае святое азяранцам месца знаходзіцца пару соцень метраў за вёскай, на ўзгорку. Калісь царкву, беручы пад увагу яе палажэнне, можна было прыкмеціць з адлегласці пару дзесяткаў кіламетраў, цяпер хаваецца яна ў маладняку, які вырас на апушчаных палях і лугах. Самае цікавае, што там хаваюць выключна жыхароў аднаго паселішча. Чаму непадалёкія Азяраны-Малыя ці Белагорцы адпраўляюць сваіх пакойнікаў аж у Крынкі? Ці гэта вынік эгаізму і самалюбнасці канкрэтнай мікрасупольнасці? Аказваецца, не. Паводле азяранскіх старажылаў, гэта адлюстраванне спрадвечнай традыцыі, якая яшчэ тут зберагаецца з некаторымі адступленнямі. Гэтых апошніх, на жаль, з кожным годам з'яўляецца больш і больш. Вядома, выхадцы раз'ехаліся па белым свеце. Часта бывае так, што забіраюць яны з сабой бацькоў ці дзядоў на дажыванне і пахаванне. Калісь вяскоўцы не толькі цэлае сваё жыццё праводзілі ў месцы нараджэння, але таксама там заставаліся на вечны спачын. Такім чынам яшчэ можам адшукаць сляды даўніх могілак у большасці навакольных вёсак, у тым ліку і ў Азяранах-Малых.

На невялікіх вялікаазяранскіх могілках побач старажытных родаў Семянякаў, Філіпікаў, Баранчукоў, Адамікаў спачывае малады мужчына з чужагучным прозвішчам Грыгорый Агнявой. Цяжка не прыкмеціць гэтай магілы, якая знаходзіцца зараз пры ўваходзе і прылягае да галоўнай сцяжыны ў царкву. Паводле аповедаў жыхара Азяран-Вялікіх Уладзіміра Баранчука, 1929 года нараджэння, беднага Грышку ў вайну застрэліла гестапа. Ён быў ваеннапалонным. Гэта здарылася напрыканцы вайны, калі рускія не паспелі яшчэ адагнаць немцаў назад. Каб паправіць стан сельскай гаспадаркі, немцы прысылалі сялянам да работы рускіх ваеннапалонных. Трэба было падрыхтаваць спецыяльнае пісьмо з просьбай аб дапамозе ў гаспадарцы, тады прывозілі іх у хату. У нашай вёсцы запыніліся дваццаць два чалавекі, пераважна афіцэры. Яны папалі сюды з нямецкага лагера ў Беластоку. Для іх вельмі важна было выбрацца згэтуль. Тут маглі працягваць ваенную дзейнасць у форме падпольнай партызанкі. Бывала, вечарамі з падсакольскіх Геніюшаў маёр прыязджаў. Ён выконваў функцыю штабовага. Валодаў спісам усіх палонных, ведаў хто якое званне меў і да якой ваеннай часці належаў. Яны часта збіраліся ў нашай хаце, потым ішлі ў стадолу. Мелі сваю радыёстанцыю, цераз якую спалучаліся з фронтам. Ведалі, што канкрэтна адбывалася і лупілі гэтых немцаў як маглі. У час тайных сходаў усе дарогі ў вёску абстаўлялі ваеннапалонныя з ружжом. Гэта для нас вялікае перажыванне было. Каб немцы даведаліся пра тое, то цэлую вёску выбілі б. Ай, хай Бог бароніць. У немца хтось штось брахануў, што ён мае справу з партызанамі, за мазгаўню і забілі, суда не было. Тады нашы людзі былі іншыя, не было, што то я, бачыў, не бачыў... Цяпер, напэўна, знайшоўся б такі пан, што выкрыў бы і данёс. Наша сям'я таксама трымала ваеннапалоннага — капітана родам з Алма-Аты. Мы з братам, за пакойнага ойца, ведалі, што ён ружжо трымае, але папе не казалі. Потым наш капітан папаўся і яго забралі назад у лагер. Тады мы ойцу пра ружжо сказалі і ён гэта зараз пабіў. Калі б немец даведаўся, што ў нас яно ёсць, ён хутка ўсіх павыбіваў бы. Неўзабаве наблізіўся фронт. Рускія салдаты ад Масквы гналі немца назад. Тут пачалі вывозіць нашых палонных у той жа нямецкі лагер у Беласток. Гэтыя, якія туды папалі, пайшлі адразу на смерць, іх вывезлі і выбілі. Ах, бедныя, як яны жылі, толькі што дружныя былі. Але вялікая іх сіла не здалася немцам, змагла ўцячы і пайсці ў партызанскія атрады.

Да нас фронт прыйшоў з Непарожняўцаў. Тут, над рэчкай немцы білі па тых рускіх. Што тут тварылася, страх успамінаць. Рускія давозілі параненых і мёртвых да вёскі і тут іх хавалі. Праходзіла тудэма такая санітарка, якая ў нашай вёсцы свайго брата, маёра, пахавала. Яна папрасіла нас „нарваць кветак, зрабіць яму вянок, ён быў такі маладзюленькі". Зрабілі мы яму вянок, правялі да месца пахавання, а яна пояс зацінула, рубашку абцягнула і пайшла за фронтам сама. Гэта была сапраўдная ваячка. Потым яна сюды ў школу прыязджала і прасіла настаўнікаў даглядаць гэтую магілку. На канцы вёскі была пабудавана школа, пры якой ліпка расла. Там пахавалі аднаго афіцэра. Але і на нашым панадворку паклалі некалькіх салдат у магілу. Зараз пасля вайны іх усіх выкапалі і перавезлі ў брацкія магілы, якія знаходзяцца на праваслаўным могільніку ў Крынках. Яны ляжаць недзе направа ад увахода, перад каплічкай. Гэты капітан з Алма-Аты, што ў нашай сям'і пражываў, вярнуўся дахаты. Нейкі час пісаў да нас пісьмы, і яго сёстры пісалі, але з часам сувязь прапала. Ці ён згінуў ці што, не знаю. Яго звалі Пётр Нікалаевіч Абрамаў.

На азяранскім могільніку апынуўся таксама ваеннапалонны Міцька Татарын. Ён тут цялят пасвіў. Беручы пад увагу ягоную прыналежнасць да мусульманскай канфесіі, нашы пахавалі яго цела за мурам, нічога па ім не ставіўшы. Па Грышы Агнявым ягоны гаспадар паставіў вялікі, драўляны крыж. Потым Грыша дачакаўся і надмагілля. Міша Кандратовіч якраз новыя помнікі па сваіх ставіў і адно надмагілле, якое было ў добрым стане, аднёс на магілу Грышкі. Яно па сённяшні дзень там стаіць. Помню, як яго асвячалі, то бацюшка дапытваўся хто гэта такі той Агнявы. То я яму ўсё аб'ясняў.

Зараз пасля вайны наша вёска апынулася на тэрыторыі Беларусі. У азяранскай царкве савецкія салдаты зрабілі сабе канюшню. За вёскай, пераехаўшы масток за альшынай, у напрамку Ласінян, была іх пагранзастава. Салдаты не ездзілі як цяпер матацыклам ці самаходам. Тады на кані пільнавалі граніцу. Заедуць на нашы могілкі, коней паставяць, а самі сядзяць у царкоўным купале і наглядаюць. Тады на магілах ставілі пераважна вялікія, драўляныя крыжы, цэментавых ці каменных было няшмат. Многа крыжоў яны знішчылі, нават каменныя разбівалі. Быў такі Галанаў, старшыня заставы, то, бывае, заедзе фургонам, драўляных крыжоў навывальвае, а потым іх паліць. Пару штук яшчэ засталося, між іншым, каля нашых могліцаў. Потым вясковыя людзі завяліся з гэтымі салдатамі. Падалі заяву ў іх штаб, які знаходзіўся ў Росі каля Ваўкавыска. Пыталі, якое яны мелі права ў капліцы паставіць коней. З часам граніца адышла, нас у Польшчу вярнулі, салдаты выехалі і цэлая справа прыціхла. Ай, няхай Бог бароніць, што тут рабілася. Яны здзекаваліся. Знайшліся сярод іх і добрыя людзі, не ўсе былі такія абы нішчыць. Некаторыя праваслаўныя салдаты прыносілі царкоўныя іконы ў вёску, астаўляючы іх па хатах, паколькі нам туды ўваход быў забаронены.

Дзякаваць Богу, ваенныя падзеі засталіся толькі ўспамінам жахлівага мінулага. Яны складаюць частку гісторыі азяранскага могільніка. Можна здагадвацца, што гэтае месца скрывае яшчэ многа цікавых фактаў, пацвярджаючых незвычайнасць і непаўторнасць вёскі Азяраны-Вялікія.

---

Кацярына СЯНКЕВІЧ

## Туга

сыходзіць праз столь
каналамі павекаў
ствapae дождж
налівае збаны горла
запаланяе крэсла пад сабою
становіцца іншай асобай
табою

*

гляджу ў рэха маўчання
бясконцае цела ценю
плод яго рве галіну
з ізаляцыі дрэва
што ёсць
чаго няма
пачынаю ведаць

*

з неба істоты снежныя
кажуцьісці
страх думаць лёгкадумна
падвяргаюся ім
аракула шукаю
не давяраю вуснам

*

прашу пра дапамогу ў казцы-пуху
мараў
хто калі не ты зразумее і наладзіць
замком веяў зачыняю маўчанне
сляза захоўвае апошнюю заяўку

*

чорная кроў вачэй
тэлефонам змоўчана
згасае стомленага агню
апошні досвед
апошнія слёзы
духмяныя табой

*

даведацца праўду цяжэй чым збіраць яблыкі
піць чужую шыю
дакранаць цябе вуснамі

*

я растаптала кветку што бегла
за пакрыўджаным тварам
сівых валасоў.
(хто можа ў насычаных колерах
абвінавачваць галаву існаваннем
адзіноты дрэў?)

калі ўцяку паткнешся
не хачу аплакваць прахалодныя рукі
мае валасы вырастуць ды толькі
калі перастануць рваць іх пальцы гора

*

Праверыла ці магу спыніць цябе
бачыць
хаваючы попел фатаграфій
букет завялых месяцаў.

Відавочная адсутнасць твайго твару ў сэрцы
дазволіла пражыць
адзін дзень
без слёз.

*

хто з'еў папяровую галаву праўды
калі разважаем пра нешта
лягчэйшае чым паветра?

# Тыдзень незалежнай беларускай культуры ў Вроцлаве

Тэкст і фота Марты БЯЛЕЎСКАЙ

У кастрычніку я пачала першы год маіх студыяў — у далёкім горадзе Вроцлаў. І хаця гэта быў мой выбар, станавілася мне крыху жаль, што на такі доўгі час пакідаю родныя старонкі і цяпер у мяне не будзе нават магчымасцей удзельнічаць у канцэртах «Бардаўскай восені» на Беласточчыне. Аднак, пэўнага дня на вэб-старонках я прачытала аб вельмі цікавым мерапрыемстве — Тыдні беларускай незалежнай культуры ў Вроцлаве.

Тудзень доўжыўся чатыры дні, а пачаўся ўрачыстым адкрыццём на вроцлаўскім рынку ў чацвер 11 кастрычніка. Некалькі дзён я думала пра тое, чаму гэтае свята наладжваюць аж у Вроцлаве, так далёка ад беларускай мяжы. На гэтае пытанне адказалі мне адзін з арганізатараў — старшыня фонду «За вашу і нашу свабоду» прафесар Мікола Іваноў і асаблівы госць — Аляксандр Мілінкевіч. Менавіта гэта культурна блізкія землі да Беларусі, паколькі пасля Другой сусветнай вайны многа людзей якраз сюды пераехала з беларускай зямлі. Шмат беларусаў і сёння пражывае ў ваколіцах Вроцлава, а беларускія студэнты вучацца ў вроцлаўскіх вышэйшых навучальных установах. Фестываль мае прыблізіць ім сапраўдную беларускую культуру і мастацтва. Арганізатары на зацікаўленне мерапрыемствам сярод мясцовага насельніцтва хіба таксама не наракаюць — фестываль беларускай культуры ў гэтым годзе ладзілі ўжо сёмы раз.

Урачыстаму адкрыццю прыдалі бляску беларускія мастакі малодшага і старэйшага пакаленняў на чале з Аляксеем Марачкіным — першым старшынёй мастацкай суполкі «Пагоня», а ў менш афіцыйнай частцы адбылася сустрэча з паэткай Яраславай Ананкай, вядомай між іншым са сваіх перакладаў вершаў Чэслава Мілаша. Выступіў таксама Лявон Вольскі — легенда беларускай рок-музыкі. Вечарам сваю творчасць паказаў яшчэ танцавальны тэатр «Skvo's Dance Company», які з'яўляецца вельмі вядомым у Мінску. Прадстаўляе ён элементы балета, а таксама народнага і сучаснага танцаў. І якраз выступ гэтага тэатра рэкамендавалі мне Андрэй і Дар'я — студэнты з Мінска, з якімі я пазнаёмілася перад канцэртам Вольскага. Яны раней бачылі рэпертуар гэтай групы і ён ім вельмі спадабаўся. І гэтым разам таксама не было інакш.

Пасля выступленняў мы яшчэ доўга размаўлялі пра сам фестываль, а таксама пра жыццё на Беласточчыне і ў Беларусі. Паводле іх, арганізацыя такога мерапрыемства з'яўляецца выдатнай ідэяй, дзякуючы якой можна распаўсюджваць сапраўднае беларускае мастацтва за межамі Беларусі і пазнаёміць з ім іншых людзей. З другога боку, яны былі вельмі здзіўлены, што на Беласточчыне вучымся беларускай мове (на якой ім самім цяжка размаўляць), слухаем беларускую музыку ці чытаем «Ніву».

Другога дня праходзіў вечар салідарнасці з беларускай апазіцыяй, які наладзілі арганізатары фестывалю разам з офісам Еўрапарламента ў Вроцлаве. На жаль, у мерапрыемстве не ўдзельнічалі тыя, якіх усе чакалі — беларускія палітыкі Уладзімір Някляеў і Зміцер Бандарэнка, якім не ўдалося прыехаць у Польшчу.

У час фестывалю арганізатары часта нагадвалі пра добрыя суадносіны паміж палякамі і беларусамі, а таксама пра тое, што трэба памятаць не толькі аб беларускай меншасці ў Польшчы, але таксама і аб паляках у Беларусі. З такой мэтай у суботу адбылася канферэнцыя, прысвечаная справе польскай меншасці ў Беларусі. Удзельнікі расказвалі аб праблемах меншасці і пра тое, як сітуацыя гэтай грамадскасці можа развівацца ў недалёкай будучыні.



Справа: старшыня фонду «За вашу і нашу свабоду» прафесар Мікола Іваноў і асаблівы госць — Аляксандр Мілінкевіч

Аднак малодшая частка аўдыторыі ў гэты дзень чакала вечара і канцэрта гурту «Рэха», вядомага сваімі выступленнямі на «Бардаўскай восені» і «Басовішчы». Зала была поўная студэнтаў, а лідар гурту Андрэй Такінданг разам са сваімі сябрамі зрабіў вялікі фурор на сцэне. Усім падабалася, незалежна ад таго, ці хтосьці ведаў беларускую мову, ці не.

Пра канцэрт «Рэха» гаварылася аж да нядзельнага вечара, пакуль на сцэну не выйшаў Віктар Шалкевіч. На пачатку паведаміў ён, што сёння з'яўляецца ён прадстаўніком польскай меншасці ў Беларусі і таму большасць песень будзе на польскай мове. Шалкевіч наведваў ужо Вроцлаў больш чым дзесяць разоў і нават пісаў песні пра горад. Пра Вроцлаў спявае, напрыклад, у вядомай песні «Таямнічы кінатэатр «Львоў». Выступ усім падабаўся, аб чым сведчылі бясконцыя апладысменты.

Тыдзень незалежнай беларускай культуры завяршыў канцэрт Лявона Вольскага, які праходзіў у прыемнай, свабоднай атмасферы. Усе сабраныя маглі на картках ставіць пытанні, на якія спявак абяцаў адказаць. Такім чынам аўдыторыя пыталася пра ўсё — ад любімага пісьменніка, па тое, якім чынам ён атрымаў цяпер візу. На сам канец Вольскі разам з усімі гледачамі праспявалі «Тры чарапахі», а пасля выступлення ў кожнага была магчымасць паразмаўляць з музыкам.

Я вельмі задаволеная, што магла ўдзельнічаць у вроцлаўскім мерапрыемстве, сустрэць у далёкай нам Ніжняй Сілезіі зоркі беларускага мастацтва, а перш за ўсё — пазнаёміцца са шматлікімі беларускімі студэнтамі. Мы ўжо з нецярплівасцю чакаем чарговых канцэртаў і восьмага выпуску фестывалю, які, як спадзяемся, адбудзецца ў наступным годзе.




У цяперашняй Беларусі быць грамадска актыўным студэнтам нялёгка. Як за савецкімі часамі ў студэнцкім жыцці галоўную ролю імкнецца граць створаны ўладамі новы камсамол, то бок Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі. Хоць насамрэч гэтая арганізацыя не нясе ў сваім існаванні аніякай ідэйнай скіраванасці, галоўная яе місія — не выказваць у адносінах да ўлады крытычных меркаванняў. Гэтая арганізацыя, нягледзячы на тое, што завецца беларускай, не надта клапоціцца аб папулярызацыі беларускай мовы, культуры, стасунках з замежнымі калегамі.

Дзякуй Богу, ёсць пакуль у Беларусі іншыя моладзевыя арганізацыі, якім не чужыя вышэйзгаданыя напрамкі дзейнасці. Адна з іх — Задзіночанне беларускіх студэнтаў (ЗБС), сайт якой месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://zebest.org.

Выгляд галоўнай старонкі сайта даволі прывабны. На ім пераважаюць белы і зялёны колеры, што дазваляе ўспрымаць яго вельмі лёгка. Выйсці да рубрык партала месцяцца толькі ўверсе выяўлення і з большага адлюстроўваюць усе сферы студэнцкіх інтарэсаў.

Для таго, каб пазнаёміцца з ЗБС варта клікнуць на словы „Хто мы? Што такое ЗБС?". Адтуль мы даведаемся, што Задзіночанне з'яўляецца адной з найстарэйшых моладзевых арганізацый Беларусі і было створана як антыкамуністычная моладзевая арганізацыя напрыканцы 1980-х гадоў. „На працягу ўсяго існавання прыярытэтнымі накірункамі дзейнасці ЗБСу былі культурніцкі і адукацыйны. Задзіночанне беларускіх студэнтаў арганізоўвала канцэрты, сустрэчы з творцамі, літаратурныя вечарыны. Таксама ЗБС надаваў вялікую ўвагу нефармальнай адукацыі, арганізаваў навучанні ў разнастайных галінах — ад курсаў спеваў да міжнародных семінараў, прысвечаных Балонскаму працэсу. Добрай ЗБСаўскай традыцыяй стала правядзенне летнікаў і краязнаўчых вандровак", — распавядаюць пра сябе актывісты арганізацыі.

Калі кранацца міжнародных стасункаў, то ЗБС уваходзіць у сетку InMOE (Ініцыятывы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы) і з'яўляецца паўнапраўным сябрам European Students' Union (Еўрапейскага студэнцкага звязу). Летам 2012 года ЗБС далучыўся да кааліцыі беларускіх, літоўскіх, эстонскіх арганізацый „У Беларусь і Еўропу БЕЗ ВІЗЫ!".

„Тое, што аб'ядноўвае ЗБСаўцаў — гэта наша беларускасць. Мы любім родную мову, мы любім сваю краіну. Мы студэнты, якія не жадаюць марна праводзіць свой час на універсітэце за партай. Акрамя атрымання адукацыі ў студэнта яшчэ ёсць мільён магчымасцей для асабістага самаразвіцця!" — упэўнена сцвярджаюць сябры ЗБС.

Пра гэтыя розныя магчымасці распавядаецца ў такіх рубрыках сайта як „Гумар", „Культура", „Policy", „Спорт", „Student News".

Навіны сайта абнаўляюцца даволі часта. Гэта азначае, што яго стваральнікам і ідэйным натхняльнікам залежыць на тым, як яны прадстаўлены ў сусветным павуцінні. Дарэчы, са студэнцкіх навін мы даведаемся, што ў верасні сябры арганізацыі правялі акцыю „Хочам вучыцца па-беларуску". Увогуле пра дзейнасць ЗБС больш падрабязна распавядаецца на старонцы „Жыццё ЗБСа", выйсце на якую чамусьці стаіць асобна ад шэрагу іншых.

На жаль, нідзе на сайце не знайсці інфармацыі аб кіраўніцтве ЗБС. На старонцы „Нашы кантакты" можна пабачыць толькі адрасы ў сацыяльных сетках і электронны пошце.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## БЕЛАРУСІ Скарбы

### Манастыр у Супраслі

Не думаю, што магу адкрыць штосьці новае пра знакаміты Супрасльскі манастыр жыхарам Падляшша, таму напэўна гэты нарыс адрасаваны найперш насельнікам па іншы бок мяжы, якім не варта забывацца, што цэлы шэраг беларускіх гістарычных скарбаў знаходзіцца зараз па-за тэрыторыяй сучаснай Рэспублікі Беларусь. У іх пераліку Супрасльская царква абарончага тыпу на адным з першых месцаў. Супрасль ляжыць на шляху з Беластока ў Крынкі, але рэдкі беларускі аўтобус з шыльдачкай на шыбе „турыстычны" адхіліцца ад звыклага шляху да „ашанаў" і „тэскаў" і заедзе ў гэтае цікавае мястэчка. Людзі выберуцца хутчэй у Парыж ці Мілан, але не хочуць ведаць пра тое, што знаходзіцца побач. Прызнаюся, што я таксама не быў у Супраслі гадоў пятнаццаць, таму выпраўляўся туды практычна „з чыстага ліста". Найперш выявілася, што даехаць туды досыць проста — крыху больш за паўгадзіны язды з самага цэнтра Беластока звычайным гарадскім аўтобусам. Дзень маёй невялікай вандроўкі прыпаў якраз на свята Пакроў Прасвятой Багародзіцы. Але чаканні, што ў супрасльскі асяродак з'едзецца шмат вернікаў, не спраўдзіліся. Увогуле ў мястэчку было няшмат людзей, што спрыяла ціхаму шпацыру і роздуму над лёсам гэтай зямлі.

У Супраслі, акрамя знакамітага храма ў цэнтры, можна пабачыць два мураваныя касцёлы, ратушу, драўляны будынак „Народнага дома", які быў збудаваны ў 1934 годзе як культурны асяродак, а таксама Тэатр „Вершалін", шэраг іншых цікавых дамкоў. У некаторых месцах можна яшчэ прайсціся старой брукаванкай.

Уласна Дабравешчанская царква-цвердзь была змуравана ў 1503-1510 гадах на беразе невялікай рэчкі на тэрыторыі Блудаўскай пушчы паводле фундацыі маршалка ВКЛ Аляксандра Хадкевіча. Паводле падання на месцы, якое некалі называлася Сухі Груд, затрымаўся крыж, які манахі з недалёкага Гарадка, слаўнага зараз сваім беларускім рок-фэстам, пусцілі па рацэ. Такой праявай было вызначана месца пабудовы. Зараз пра гэтую легапісную падзею сведчаць адпаведны камень з шыльдай і крыж, усталяваныя на ўзгорыстым беразе Супраслі. Неўзабаве пры царкве быў заснаваны праваслаўны манастыр. Асвячаў яго смаленскі архіепіскап Іосіф Солтан. У XVII стагоддзі манастыр стаў базыльянскім. А знакаміты ён не толькі сваёй архітэктурнай каштоўнасцю і абарончымі функцыямі, але і ўнікальнымі фрэскамі перыяду старажытнага праваслаўя. Паводле адной з версій выканаўцам размалёвак быў серб Нектарый, паводле іншай — гарадзенскія майстры. Частка з кірылічных фрэсак размешчана ў мясцовым „Музеі ікон". Музей абразоў тут сапраўды ўнікальны. Адно мяне здзівіла, што ўсе іконы на экспазіцыі падпісаныя як расійскія — няўжо сярод іх няма мясцовых, беларускіх? Запытаўся пра гэта ў музейных супрацоўнікаў, але ўцямнага адказу так і не атрымаў.

У 1944 годзе пры адступленні фашысты ўзарвалі сабор, засталіся толькі фрагменты сцен і слупоў. Храм доўга аднаўляўся. Увесь манастыр у наш час зазнаў істотную адбудову, шмат грошай на рэстаўрацыю і развіццё турыстычнай інфраструктуры Супрасль атрымала з еўрасаюзных праграм. Будаўнічыя працы па парадкаванні манастырскага двара працягваюцца і зараз.

Калі злучыць супрасльскі храм умоўнымі лініямі разам з яго сёстрамі на Гарадзеншчыне — цэрквамі ў Мураванцы і Сынковічах, то на мапе атрымаецца досыць цікавы трохвугольнік з двума амаль раўналеглымі бакамі. Манастыр у Супраслі — найбольш заходняя беларуская праваслаўная святыня, якая злучае нашу старажытную гісторыю.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Пустаслоўная гамонка

12 кастрычніка перад Парламентам выступіў з „экспазе" прэм'ер-міністр Дональд Туск.

Уяўленне будучыні старшыня Рады Міністраў заключыў у дваццаці сямі пунктах. Тычыліся яны развіцця прадпрымальніцтва ў стратэгічных сектарах нацыянальнай гаспадаркі, як і паляпшэння сацыяльна-бытавых умоў жыцця грамадзян. Апазіцыя, як і СМІ крытычна аднесліся да выступлення. „Гаворка самая сабе. Без канкрэтаў", — канстатавалі дружна рэцэнзенты. „Адкуль узяць грошы на падтрымку прасямейнай палітыкі, рэструктурызацыю чыгункі ці на рэфармаванне службы аховы здароўя пры так дзіравым бюджэце?" — пыталі апазіцыянеры. У адказ прамоўца канстатаваў: „У бліжэйшым часе, разам з еўрасаюзнымі сродкамі урад прызначыць 700-800 мільярдаў злотых. Польшча дапаміняецца ад ЕС 300 мільярдаў. Гэта план рэальны, хоць вельмі цяжкі. Пакарыстаемся тут Праграмай „Польскія інвестыцыі", якія будуць успамагаць малое і сярэдняе прадпрымальніцтва. — І на канец сказаў: — Хочам пацвердзіць магчымасць упраўлення, каб дзейнічаць штодзень у карысць звычайных людзей".

Не стану спрачацца наконт гэтай неразбярыхі. Скажу такое, я абгрунтоўваю разважанні эканамістаў. Гаворка без канкрэтаў, гэта пустаслоўная гамонка, звычайна ўтопія, невыканальныя абяцанкі, якімі ўпраўляючая кааліцыя корміць народ ужо пяць гадоў. Прыкладаў не стану далёка шукаць. Першы з боку — Чаромхаўская гміна.

У мінулым чыгуначная станцыя лічылася стратэгічным вузлавым цэнтрам. Карысталася двума пагранічнымі чыгуначнымі пераходамі: Чаромха — Свіслач (у Семяноўцы) і Чаромха — Высока-Літоўск, таксама дарожным пагранпераходам Полаўцы — Пяшчатка. Чыгуначны рабочы калектыў налічваў больш за тысячу чалавек. Людзі мелі працу, будаваліся. Узнік новы жылы пасёлак. Мясцовая грамадскасць станоўча ставілася на кожны кліч самаўрадавых улад і кіраўнікоў заводаў. Спраўна дзейнічала публічная медычная служба. Чыгуначная амбулаторыя карысталася двума аўтамабілямі хуткай дапамогі. Ды чарамшане не заставаліся ў даўгу. Шматлюдна ўдзельнічалі ў грамадскіх пачынах пры пабудове дарог Кляшчэлі — Гайнаўка, Чаромха — Зубачы, пры пабудове дома культуры „Калеяж" ці тэхнічна-адміністрацыйнага павільёна станцыі. Працавалі аддзяленні мытнай службы і пошты. Жыхары Чаромхаўскай гміны станоўча паставіліся да зборкі грошай на Нацыянальны фонд здароўя. У 1980 годзе, напрыклад, занялі першае месца ў ваяводстве ў зборцы (другое месца заняла Кляшчэлеўская гміна). Спраўна працаваў чыгуначны пасажырскі транспарт. Курсіравала шэсць пар цягнікоў Чаромха — Беласток і столькі ж (як не больш) у Гайнаўку. Зараз са слязінкай у вачах можам паўспамінаць мінулыя будні. У час шматлікіх рэарганізацый і рэструктурызацый зніклі з чыгуначнай карты шматлюдныя прадпрыемствы: паравознае і вагоннае дэпо (гэтае апошняе было забяспечанае суперсучаснай тэхнікай для агляду вагонаў), ды рухавагалёвая служба, не лічыўшы паменшых установ. Трохпавярховы будынак станцыі пустуе. Адмянілі працу аддзяленні мытнай службы і пошты. З шасці даўнейшых пар цягнікоў у Беласток засталіся дзве пары і прадбачваецца, што пры змене раскладу язды застанецца толькі адна пара, а ў Гайнаўку не будзе ніводнай. Аб медычнай службе лепш не гаварыць. Чаромха аказалася на чорным спіску і чакае немінучай смерці. Ці зараз можна даваряць „экспазе" Дональда Туска, які абяцае прызначыць на мадэрнізацыю чыгункі ў 2013-2015 гадах 30 мільярдаў? Гэтыя словы пярэчаць самі сабе. Міністр фінансаў Яцак Растоўскі ў інтэрв'ю журналісту тэлеканала TVN 24 канстатаваў, што дзяржаўныя прадпрыемствы не маюць рацыі быту, бо не дбаюць пра эканамічныя вынікі (такім прынцыпам пакарысталіся ў мінулым пры ліквідацыі дзяржаўнай чыгункі). А прэм'ер-міністр зараз публічна заяўляе, што ўзнікне новая ўстанова „Польскія інвестыцыі". Гэта ж будзе фірма-гігант, у якой знойдуць працу сотні, калі не тысячы высокааплатных дзяржаўных чыноўнікаў. Не цяжка дадумацца хто знойдзецца на спіску гэтых апошніх — паплечнікі ўпраўляючай кааліцыі. Ці ж гэта не дэмагогія?

**Уладзімір СІДАРУК**

PS. Сумную рэчаіснасць чаромхаўскіх рэалій паказаў радны Януш Ліпінскі ў сваім вершы, які прысвячае ўладарам ваяводскага самаўрада.

Na wschodniej rubieży
Gmina Czeremcha leży,
Ludzie tam spokojnie pracowali
I żyli, dopóki kolei nie wykoleili.
Na wstępie wagonówkę rozgrabili,
Ludzi pracy i spokoju pozbawili.
Możni kolei występują w roli kata
I chcą Czeremchę odciąć od świata.
W Czeremsze mamy wszystko, by kwitła kolej,
Lecz dla niektórych należy się wymienić olej.
Bo te przeglądy są zaniedbywane
I wszystko co dobre idzie w niepamięć.

5 ☞працяг

## Інтэлігентная спецыялізацыя

— Добрае гаспадарчае супрацоўніцтва ўплывае на фармаванне палітычных адносін. Я працїўнік усялякіх эмбарга і гандлёвых абмежаванняў. Іх ахвярамі становяцца не рэжымы, супраць якіх іх фармальна накіроўваюць, але перш за ўсё кранаюць яны сярэдняга чалавека. Гаспадарчае супрацоўніцтва не павінна быць прыладай у вядзенні палітыкі. Трэба забараніць супрацоўніцтва з прадпрыемствамі, якія дзейнічаюць нелегальна: парушаюць закон, правы чалавека, працоўныя законы і да г.п.

У канферэнцыі прыняла ўдзел міністр рэгіянальнага развіцця Альжбета Бяньkоўская. У час брыфінга прадбачыла яна, спасылаючыся на чарговую Аперацыйную праграму развіцця Усходняй Польшчы:

— Мы павінны зрабіць высновы з таго, што адбывалася да гэтай пары, але і зрабіць крок наперад. Праграма развіцця Усходняй Польшчы будзе ісці крыху ў іншы бок чым дагэтуль, не вельмі інфраструктурны, хаця таксама з прыняццем пад увагу інфраструктуры, а больш рэгіянальнай спецыялізацыі і канкурэнтаздольнасці. Міністэрства завяршае дакумент датычны рэгіянальных спецыялізацый. Найважнейшымі будуць у ім перададзеныя дакументы, стратэгіі самаўрадаў ваяводстваў. На аснове гэтых спецыялізацый хочам пабудаваць узлётную паласу на наступныя пару дзесяткаў гадоў. Першы наш дакумент будзе датычыць канкурэнтаздольнасці на аснове спецыялізацыі, другі — чалавечага капіталу. Трэці прыярытэт гэта вышэйшыя навучальныя ўстановы і стварэнне добрай базы для іх супрацоўніцтва з прадпрымальнікамі. І гэта актуальны лозунг не толькі адносна Усходняй Польшчы. Вучэльні мусяць цяпер даказаць, што з гэтай інфраструктурай, з гэтымі лабараторыямі будуць рабіць, а нават будуць дагэтага іх прымушаць. Будуць таксама прыглядацца да таго, якія спасылкі мае кожная з ваяводскіх праграм развіцця Усходняй Польшчы на субрэгіён.

Дадала:

— У Праграме развіцця Усходняй Польшчы працэнтная сума на дарогі не будзе значна меншай. Аднак напэўна ў бюджэце не будзе грошай на лакальныя дарогі. Можа яшчэ на павятовыя, але і тыя больш значныя. Першапланавым будзе завяршэнне аўтастрад і экспрэсных дарог. Плюс, вядома, чыгунка.

Два дні пасля гэтай канферэнцыі ў Падляшскай ваяводскай установе, у Маршалкоўскай управе Падляшскага ваяводства па ініцыятыве Таварыства „Amicus" разважалі аб гаспадарчым супрацоўніцтве Польшчы і Беларусі. Аб гэтай сустрэчы і больш аб канферэнцыі „Сапраўдная Еўропа рэгіёнаў і развіццё Усходняй Польшчы" — у наступным нумары.

# 28.10 — 03.11

**(22.03. — 20.04.)** Вернецца твая жвавасць, будзе распіраць цябе энергія. Добры час, каб вярнуцца ў свет і ўзяцца за найцяжэйшыя справы — сілы хопіць на ўсё. Толькі што будзеш нецярплівы, і іншым з табою можа быць цяжка. У суботу могуць табе вярнуць невялікую суму грошай.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш крыху стомлены, з меншымі сіламі, пагоршыцца і настрой (у кастрычніку). Выкарыстай свае творчыя ўменасці, каб знайсці новыя ідэі і напрамкі дзейнасці. Увесь тыдзень добры для перасялення, пачатку будаўніцтва новага дома. У панядзелак не прышчамі пальцаў. У аўторак лепш адкладзі службовую камандзіроўку. У пятніцу выдаткі, хутчэй на сям'ю.

**(22.05. — 22.06.)** 27-31.10. — нядобры момант на візіт у лекара, абследаванні ці працэдуры; магчымыя ўскладненні. 30-31.10. задбай аб далоні. Самотных Блізнят чакаюць прыгоды, няхай толькі выйдуць з дому. Усе твае старанні не прападуць. Найлепшыя твае дарадчыкі — інтуіцыя і ўява.

**(23.06. — 23.07.)** Найлепшы час на любоўныя сустрэчы. Хаця да 30.10. будзеш сварлівы, з-за абы-чаго будзеш хапацца за чуб. Не дазваляй сваім пачуццям мяшаць у тваёй прафесійнай дзейнасці. Магчымыя паводзіны, якіх у далейшым пашкадуеш. Пазбягай месц, дзе прабывае шмат людзей. У панядзелак не дай сябе ашукаць. У аўторак пазбягай новых знаёмстваў (наўрад ці яны табе пойдуць у карысць).

**(24.07. — 23.08.)** Трэба будзе прыбыць на сямейны сход дзеля разбору нейкай справы. 28-31.10. трэба будзе завесці новыя прынцыпы дома; зменіш тое, што табе найбольш перашкаджае. Не пазычай грошай, бо, мабыць, ніколі не вернуцца. У аўторак і чацвер маеш найбольшыя шанцы на поспех. У сераду файныя знаёмствы і паездкі.

**(24.08. — 23.09.)** 27-31.10. станеш перад нялёгкім выбарам (ды што б ты не выбраў, рады не будзеш…). Знайдзі спосаб на разгрузку стрэсу, бо расхварэешся. Будзь асцярожны нават на простай дарозе, бо розныя раны і скалечанні будуць цяпер доўга гаіцца. Добры час для прапаноў сэрца, заснаўвання аб'яднанняў і саюзаў.

**(24.09. — 23.10.)** Нечаканыя падзеі, якія разварушаць тваё жыццё. Цяпер маеш шанц здабыць штосьці новае. Сачы за інфармацыяй. У панядзелак не вяртай даўгоў. У сераду адкрыецца перад табою шмат новых і цікавых магчымасцей. У чацвер не ляніся і будзь пільным, бо можаш шмат страціць. У пятніцу заключай любыя дагаворы. У суботу чакай падарунку.

**(24.10. — 22.11.)** Лепшае самаадчуванне. Інвестуй лішак грошай (ха-ха!), кіруючыся эканамічнымі ведамі і інтуіцыяй. 29.10. будзеш вельмі імпульсіўны, што можа давесці да непаразуменняў. Пачнеш імкнуцца да новых мэт. Усе здаровыя ідэі, што прыйдуць у галаву, рэалізуй. У прафесіі паявяцца новыя перспектывы развіцця — рушся, і ўсё пойдзе як па масле (будзеш мець падтрымку). У пятніцу добра зачыняй дзверы ў сваю хату.

**(23.11. — 22.12.)** Зоркі дадуць табе імпульс для развіцця. Будзеш вучыцца, спазнаваць новыя галіны навукі, чытаць цікавыя кніжкі. Сур'ёзна падумай аб ашчаднасці. Спрыяць табе будуць жанчыны. Ды можа атачэнню не спадабацца твая напышлівасць. Не абяцай больша-га, чым можаш зрабіць. Чхнеш у суботу — на вяртанне даўгоў.

**(23.12. — 20.01.)** Хтосьці падаруе табе прэзент (не чакаючы рэваншу). У тваіх думках будуць лунаць былыя каханні. Адкрыюцца новыя магчымасці, а даходы падрастуць. Чакаюць цябе сустрэчы пры публіцы. Засяродзься на службовых справах і даходных мерапрыемствах, трымайся збоку ад эмацыянальных канфліктаў.

**(21.01. — 19.02.)** Малым коштам цяпер можаш шмат дасягнуць. Пераканаеш кожнага да інвеставання ў твае задумы. Фізічна не будзеш сябе адчуваць найлепш (рэгенеруй сілы, больш спі). Звяртай увагу на благія прадчуванні. Хтосьці, каму давяраеш, выкарыстае тваю шчырасць.

**(20.02. — 21.03.)** Паслабее твой імунітэт, 27-31.10. будзеш прытым меланхалічны, слабейшы, стомлены ад работы. Зрабі сабе штосьці прыемнае. Прыгадае аб сабе былое. Пільнуй сваіх абавязкаў і даўгоў, асабліва ў аўторак будзь вельмі асцярожным і ўважлівым на працы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. пакістанскі порт, 2. травяністая расліна з жоўтымі кветкамі і стручковым плодам (*Sinapis, Brassica*), а таксама вострая прыправа з яе насення, 3. брус паміж ніжнімі канцамі вушакоў, 4. 3,26 светлавога года, 5. чорнае паліва з Кузбаса і Данбаса, 6. цэнтр Мазавецкага ваяводства Польшчы, 7. заснавальнік Залатой Арды, 8. жаночы голас, 9. разрыўны артылерыйскі снарад, напоўнены круглымі кулямі, 10. прозвішча вынаходцы дынаміту.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 39 нумара**

Аер, дзед, мена, меч, Ной, Доха, табу, тога, трыо, туш, хота, чума.

Рашэнне: **Хто не рады таму што мае, той не будзе рад таму чаго хоча**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Ратуйма Украіну, хлопцы!

**Дарагія ўкраінцы! 28 кастрычніка выбярэм будучыню нашай краіны. Рэжым Януковіча ператварыў Украіну ў прыдваркі Еўропы, з патанаючым у бяспраўі і пазбаўленым надзейнай будучыні народам. Нам трэба даць адпор гэтай ардзе, спыніць палітычныя рэпрэсіі, эканамічную эксплуатацыю і сацыяльнае бяспраўе...**




Гэты баявіты зварот прачытаю на выбарчай лістоўцы львоўскага гісторыка і юрыста Андрэя Цягнібока, кандыдата ў парламент ад апазіцыйнай кааліцыі „Свабода”, зарэгістраванага ў 125-й выбарчай акрузе ў мястэчку Самбар. Цягнібок паабяцаў змяніць УСЁ. Свой прыгожы здымак, дзе кандыдат явіцца палітыкам еўрапейскага фармату, прыаздобіў ваенным лозунгам кааліцыі: *Рука не здрыгнецца.* На іншых афішах ён з Віталем Клічкам, лідарам УДАРУ (Украінскага дэмакратычнага альянсу ў карысць рэформаў), у прыватнасці баксёрам цяжкавагавіком, дзевяціразовым чэмпіёнам свету (мянушка „Жалезны кулак”). Што тут дадаць: на кіламетр пахла тэстастэронам і мардабоем...



Спецы па піары, што працавалі ў карысць апазіцыі, не пакінулі сумненняў, хто направіў іхні карабель на гібельныя воды і якой ардзе прыйдзецца даць адпор. Гэтая тайна была асветлена і нам ужо трынаццаць кіламетраў пасля перасячэння мяжы Польшчы з Украінай, дакладна на перыферыях старажытнага горада Уладзімір-Валынскі. На сцяне пахіленага, мабыць, гістарычнага будынка вітаў чорны драпежны лозунг: *Москаль капут!*

* * *

Уладзімір-Валынскі, 5 кастрычніка 2012 года. На пачатку вялікае расчараванне, да якога цяжка прызнацца. Настрой месца ніяк не падыходзіў да баявітай рыторыкі, што лунала з білбардаў і выбарчых лістовак. У цэнтры старажытнага Уладзіміра веяла сонным буднем, дзесьці на панадворку кукарэкаў певень. У парку выседжваў бронзавы князь Даніла з заклапочаным аблічам. Ён глядзеў на аўтобусны вакзал і нагадваў дыспетчара руху. Легендарны ўладар Валыні і Галіччыны здаваўся быць стомленым ад нараканняў сучасных шафёраў і пасажыраў, што гублялі энергію і талент на дзіравых дарогах украінскай глыбінкі, якія месцамі напамінаюць пекла на зямлі...

Калі чалавек паставіць крок на міфічным грунце, — а гэтак дакладна здарылася са мною, — ён адразу гатовы знайсці сабе суцяшэнне. Даніла Раманавіч, калі палічыць яго заслугі, павінен прамовіць як добры знак і надзейны абаронца ў безнадзейных выпадках. На яго долю выпала бараніць княства ад мангольскай навалы ў 1239-1249 гадах. Дзякуючы дыпламатыі і спрыту князя ягонае княства, менш чым іншыя, працярпела нашэсце, якое летапісцы параўноўваюць да біблейскага патопу. І хоць прайшло амаль восемсот гадоў, навала ардынцаў усё жывая ў душы і памяці сучасных украінцаў (глядзі: выбарчая лістоўка Андрэя Цягнібока). А ўжо найбольш у старажытным Уладзіміры, дзе ў час прыходаў мангалаў узнікла падзямельнае гарадзішча, з таемнымі ходамі, непрыкметнымі схованамі і цэрквамі. Фрагменты падзямельнай інфраструктуры захаваліся па сённяшні дзень і немагчыма пра іх забыцца, калі ідзеш гарой, значыць, гарадскім тратуарам, перапатканым адкрытымі рэзервуарамі для сцёкавых вод. На зямлі, значыць, на паверхні горада таксама кідаецца ў вочы агромністы насып, які гараджане ўзнеслі пасля нашэсця азіятаў у 1491 годзе. Насып атуляе Успенскі сабор, самы старажытны будынак Валыні XII стагоддзя, які ў час нашэсця падпалілі і часткова спляжылі *араганцы.* Горад найлепш аглядаць уначы, каб даць волю фантазіі і старажытным запіскам летапісцаў. Найбольшы росквіт Уладзіміра выпадае на зломе XII і XIII стагоддзяў, пры панаванні Рамана Мсціславіча. Славай і багаццем горад пераўзыдзе сам Кіеў. Месца будзе явіцца як інтэлектуальны цэнтр з найбольш развітай пісьменнасцю, мастацтвам. Тут невыпадкова запішуць Валынскі летапіс — хроніку заваёў і паразаў сярэдневяковых князёў, жывую крыніцу натхнення для сучаснай апазіцыі.




У акне піўнай забягалаўкі

* * *

Ва Уладзіміры-Валынскім каля сарака тысяч жыхароў. Толькі дзе-нідзе віднелі плакаты фармату А-3 лакальнага кандыдата ад «Свабоды», зразумела, у пары са славутым баксёрам. Палітычная канкурэнцыя, «Партыя Рэгіёнаў» Януковіча, якая ў той дзень у рэйтынгу апярэджвала ў маштабе краіны, тут была непрыкметнай. Словам, нішто не дзеялася...

На рыначку, які схаваўся за бляшаным плотам аўтавакзала, таўкліся стомленыя кабеціны. У жалезных крамах-«пашчэнках» гандлявалі кітайскім адзеннем, буракамі, часнаком, вінаградам... Ніхто не гаварыў пра выбары, не крытыкаваў урада, не дамагаўся перамен. Быццам грамадскія справы не цікавілі і не залежалі ад саміх грамадзян. Ніхто не клапаціўся пра дзяржаўны бюджэт. Наадварот, на пытанне, дзе найлепш памяняць грошы, нас адразу завялі да валютчыка:

— Бо ў яго найбольш карысны абмен!

Валютчык гандляваў яшчэ кошыкамі, таму ўсё адбылося на месцы, з рукі ў руку, без лішніх фармальнасцей і паперак. З кучай грыўнаў (адзін долар — восем грывен) падаліся мы ў „Каскад”, модную ў горадзе піцэрыю. Спачатку мы разгледзеліся па баках — ці не папалі ў які салон СПА. За дубовымі сталамі шчабяталі апранутыя па апошняй модзе прыгажуні. Усе яны заказалі мініяцюрную піцу і марожанае, якое спажывалі з дастойнай элегантнасцю, як у якім фільме пра жыццё шляхты і арыстакратаў. Гэтая карціна ніяк не прыставала да пабачанага на вуліцы і рынку, а найгорш — не было раўнавагі. Дзе ж падзеліся іхнія хлопцы? Ці не падаліся на якісьці казацкі сход, каб там вырашаць будучыню краіны? Загадку дапамагла разблытаць цётка, якая забегла ў бар проста з вуліцы, каб тут пакарыстацца прыбіральняй. Стоячы ў чарзе ў туалет, мы завялі гутарку пра непрысутных уладзіміркаў. У адказ пачуліся знаёмыя словы:

— То ж не свята, каб сядзець у рэстаране і траціць без справы грошы!

І, каб аднесціся да палітыкі, яшчэ заявіла: *Нідзе не пайду, хай сабе галасуюць як хочуць. Мне ўжо абрыдла і надаела іхняе зладзейства...*

* * *

Старажытныя князі і цары верылі, што вайну выйграваюць яшчэ да самой сутычкі і, зразумела, не на фронце. Сапраўдная перамога, верылі, адбываецца ў царкве. Ва Уладзімір-Валынскі мы прыехалі для Успенскага сабора XII стагоддзя, найстарэйшага духоўна-архітэктурнага помніка Валыні. У справе самой архітэктуры шмат недаказанага. Сабор захаваў старажытны падмурак, ён адбудаваны ў візантыйскім стылі ў пачатку XX стагоддзя, на сродкі Расійскай імперыі. Цягам стагоддзяў ён мяняў выгляд да непазнакі. Напрыклад, на карціне сярэдзіны XIX ст. напамінае барочную кафедру ў Красным Стоку.

Ад самога парога нашу ўвагу запаланілі фрэскі, дзе сярод святых абраннікаў многа святых жанчын — рэч небывалая ў царкве! Мяне шакіравала густая прысутнасць беларускіх святых: Еўфрасінні Полацкай, Юльяніі Гальшанскай, Афанасія Брэсцкага... Успенскі сабор называюць яшчэ Мсціслававым, ад імя Мсціслава Ізяславіча, князя, які ў 1154-1160 гадах пабудаваў сабор. У падзямельных грабніцах спачываюць косці прадстаўнікоў княскай валынска-галіцкай дынастыі. На добрую справу, прысутнасць беларускіх святых не павінна тут здзіўляць. Мсціслаў Ізяслававіч — сын князя Ізяслава, які ў сваю чаргу з'яўлецца сынам Уладзіміра і Рагнеды, дачкі напаўміфічнага Рагвалода. (Князь Уладзімір тут размаляваны разам са сваёй хрысціянскай маладзенькай жонкай, святой княгіняй Вольгай).

Успенскі сабор падпарадкаваны Маскоўскаму патрыярхату і, згодна з палітычнай логікай, тут павінны тусавацца прыхільнікі „Нашых рэгіёнаў”. Давыбарчая прапаганда, як паказалася ў час нашай пабыўкі, не прасякала мурой сабора. У цэрквах, як у самім горадзе, адчувалася стомленая штодзённасць. На вячэрні, дзе спяваў найцудоўны хор семінарыстаў, малілася пяць старэйшых жанчын і адзін *юродзівы.*

*(працяг будзе)*

ISSN 0546-1960